


# Наша Слова




Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 34 (298) 22 жніўня 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў

TV-праграма

ШТО ТРЭБА РАБІЦЬ БЕЛАРУСУ Стар.2.

"ЧЫРВОНЫЯ" ПЕНСІЯНЕРЫ ДАНОСЯЦЬ... Стар.2.

КРЫЖЫ Ў ЧАКАННІ Стар.4.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў прызначыла** дадатковыя паўторныя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета на 24 лістапада. Калі ўлічыць, што на 7 лістапада плануецца правядзенне рэферэндуму, то можна смела сказаць — лістапад для нашай краіны чакаецца багатым на палітычныя падзеі.

○ ***Выдавецтву "Ураджай" споўнілася 35 гадоў.*** *За час свайго існавання выдавецтва выпусціла больш за 5000 назваў кніг і брашур агульным тыражом прыкладна 62 мільёны экземпляраў. На жаль, апошнім часам у выдавецтва шмат фінансавых праблем, але свой юбілей "Ураджай" сустракае новымі выданнямі. Ёсць сярод іх і беларускамоўныя. Віншуем выдавецтва з юбілеем і жадаем і надалей не забывацца пра беларушчыну.*

○ **У памяшканні пасольства Рэспублікі Беларусь у Маскве** створаны пастаянны выставачна-інфармацыйны цэнтр, дзе прадстаўлена звыш 500 назваў прадукцыі амаль стапяцідзесяці беларускіх прамысловых прадпрыемстваў. Хацелася б, каб тое, што выстаўлена, куплялася суседняй дзяржавай у нашай дзяржавы.

○ ***Нацыянальны мастацкі музей Беларусі па каштоўнасці свайго фонду*** *ўваходзіць у першую тройку музеяў былога СССР. Адная толькі 6 працэнтаў яго калекцыі дэманструецца — усё астатняе ў запасніках і, здаецца,— не горшае.*

○ **У 1996/97 навучальным годзе дзяржаўныя ВНУ Беларусі папоўняць 30 тысяч студэнтаў-першакурснікаў.** 23 тысячы з іх будуць атрымліваць адукацыю бясплатна, а 7 тысячам за набыццё ведаў давядзецца плаціць. Найбольшая колькасць "платных" студэнтаў на сённяшні дзень атрымліваюць адукацыю ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце.

○ ***Сярэдні конкурс у вышэйшыя навучальныя ўстановы*** *нашай краіны сёлета, паводле апошніх звестак, склаў 2,3 чалавекі на месца (летась — 1,9).*

○ **На працягу бліжэйшага года з Расіі ў Беларусь** будзе экспартавана да 12 млн. тон нафты, 16 млрд. кубаметраў прыроднага газу. З Беларусі ў Расію — 14-15 тыс. грузавых аўтамабіляў, прыблізна такая ж колькасць трактароў, 30 тыс. тон мяса і мясапрадуктаў, да 400 тыс. тон малака і малочных прадуктаў. Але, на жаль, наш доўг за нафту і газ не памяншыцца.

○ ***Паводле афіцыйных звестак*** *па стану на 1 жніўня колькасць беспрацоўных у нашай краіне склала 180 тысяч 391 чалавек. Здаецца, нямнога, але гэта толькі афіцыйныя звесткі...*

○ **Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры паведаміў**, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1996 года дапушчаны наступныя пісьменнікі: Г.Далідовіч, М.Чаргінец, У.Ягоўдзік, М.Купрэеў, А.Казловіч, В.Стома, П.Сабіна і І.Макаловіч. Кандыдатаў шмат, а прэмія — адна...

## "Хаджэнне ў трыдзесятае царства"

— так назвалі сваю вандроўку ўздоўж беларускай мяжы нядаўнія супрацоўнікі часопіса "Роднае слова" Іван Ждановіч і Валянціна Шымановіч. Ім давядзецца прайсці пешшу 3000 кіламетраў. Па працягласці гэтая вандроўка зойме каля 100 дзён. Шлях пачынаўся з Друі, скончыцца там жа. Мэта вандроўкі — выпрабаванне самiх сябе, а таксама жаданне сваім прыкладам "заразіць", у першую чаргу, моладзь пешым турызмам, цікавасцю да выдатных мясцін роднага краю.



За плячамі вандроўнікаў больш за 80 дзён шляху, і фотакарэспандэнт зрабіў здымак, калі іх шлях пралягаў па Гомельскай вобласці.

Загарэлыя твары свецяцца ўсмешкай, вандроўка ім у радасць!

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

## Штотыднёвая культурна-асветніцкая газета "Наша слова"

Напачатку было Слова, сказана ў Біблії. І гэты дар Божы мае кожны чалавек. Толькі яго трэба паважаць у сабе і развіваць. Газета дапамагае авалодваць багаццямі роднай мовы, культурай размовы і пісьма. Пастаянна друкуюцца паведамленні аб культурных працэсах у свеце і Беларусі, пра духоўнае жыццё беларусаў за мяжой. "НС" падтрымлівае каштоўнасці сям'і, адсочвае гісторыю народа ў слове, падтрымлівае ў людзях сумленнасць, грамадзянскую годнасць, духоўнасць і павагу да агульначалавечых каштоўнасцяў.

**"Наша слова":** Індэкс 63865.
Кошт:
на 3 месяцы 15 000 рублёў
на 1 месяц 5 000 рублёў

*Але!* *Але!*

## Міністру адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь

### Стражаву Васілю Іванавічу ад прафесара, доктара тэхнічных навук Саламонава Аляксея Андрэевіча

### ПЫТАННІ:

*Чым больш я знаёмлюся са шматлікімі выступленнямі міністра Стражава В.І. адносна рэформы адукацыі і аналагічнымі матэрыяламі гэтага ж міністэрства ў друку, тым больш узнікала непаразуменняў. Каб разабрацца ў іх, прыйшлося хадзіць на выступленні Васіля Іванавіча перад выкладчыкамі некаторых ВНУ і задаваць там пытанні. У выніку пытанні не толькі не знікалі, а яшчэ больш павялічваліся па колькасці і глыбіні. Напрыклад, гаворыцца: "Прэзідэнт выказаў думку, што ў фундаменце нашай будучай школы павінна быць наша савецкая школа, школа, на якой мы грунтуемся сёння" ("Настаўніцкая газета" ад 10.02.1996 г.). Аднак сучасная школа Беларусі адышла ўжо ў значнай меры ад дагматычна-ідэалагічных абмежаванасцяў савецкіх часоў. Далей сцвярджаецца: "Перш за ўсё навучанню неабходна надаць гуманітарную накіраванасць" (там жа). Але ж на самай справе вучань павінен пазнаць законы прыроды і грамадства менавіта такімі, якія яны ёсць пры ўсёй іх нярэдкай бязлітаснасці. Апроч таго, ён абавязан атрымаць у школе і адпаведныя навыкі для выкарыстання тых ведаў у сваёй жыццядзейнасці* ***з улікам не толькі сваіх патрэбнасцяў,*** *а і абавязковых патрабаванняў-неабходнасцяў той жа прыроды, сваёй дзяржавы (нацыі) і агульначалавечай супольнасці. А гэта патрабуе ўзрошчвання адпаведнай духоўнасці, аб чым нідзе — ані слова. Далей чытаем: "зрабіць даступнай вышэйшую адукацыю для кожнага, хто гэтага пажадае". Але ж гэта, прабачце, Васіль Іванавіч, можа прывесці да яе прафанацыі і прыніжэння. Бо ёсць ад прыроды і такія дзеці, якім (пры ўсім іх жаданні) паўнацэнную вышэйшую адукацыю набыць проста немагчыма. Задача школы тут у іншым — у падрыхтоўцы і гэтых людзей для паўнацэннага жыцця ў грамадстве, якое таксама павінна ведаць аб гэтым. Далей у "прапановах" размова ідзе аб "агульнаадукацыйнай школе". А разглядаюцца ўсе віды навучання, уключаючы сярэдняе спецыяльнае і вышэйшае. І робіцца гэта ў значнай меры павярхоўна. Таму нялёгка разабрацца ў адрозненнях паміж сярэднімі ПТВ, вышэйшымі ПТВ, тэхнікумамі, каледжамі, тэхнічнымі ліцэямі, спецыяльнымі класамі адпаведных школ. Ёсць і іншыя заўвагі. Адна з галоўных у тым, што не звяртаецца аніякай увагі на тое, што "у незалежнай Беларусі можа быць адна сістэма адукацыі — нацыянальная" (Я.Цумараў, "Народная газета" ад 13.9.1995 г.).*

*Усё вышэй адзначанае прымусіла мяне перадаць свае пытанні да міністра Стражава В.І. пры яго сустрэчы з чытачамі "Звязды" па прамым канале. Але адказаў на іх я штосьці і не пачуў, і не заўважыў. Мае пытанні тыя не зняло і нядаўняе прасторнае выступленне ў "Настаўніцкай газеце" ад 25 і 29 мая гэтага года тройчы акадэміка, намесніка міністра У.Валадзько з артыкулам "Сучаснасць і змест будучай рэформы школы". Наадварот — колькасць пытанняў павялічылася. Таму я вырашыў накіраваць свае пытанні Стражаву В.І. праз газету.*

У адпаведнасці з аб'явамі ў газеце "Звязда" аб правядзенні Вамі прамых адказаў на пытанні чытачоў гэтай газеты звяртаюся да Вас з наступнымі пытаннямі.

1. У газеце "Звязда" ад 11.11.1995 года Вы ўпэўнена сцвярджалі, што "на Захадзе гісторыя ніколі не лічылася навукай". У сапраўднасці гэта не так. Інакш навошта б там так старанна вывучалі гісторыю. І вывучаюць, бо ведаюць, што сучаснае — каранямі ў мінулым, а будучае — на плячах у сучаснага. Значыць, без глыбіннага аналізу мінуўшчыны, адносімай на фон агульнапрагрэсіўнага развіцця чалавецтва, немагчыма глядзець у будучае. Вашы выказванні супярэчаць гэтаму. Дык як жа Вас разумець?

2. Там жа Вы раіце штосьці нелагічнае: "не выкладаць некаторыя спрэчныя гістарычныя факты школьнікам". А між іншым, у адпаведнасці з Вашымі парадамі атрымліваецца, што вучні не павінны вывучаць Расійска-Японскую вайну 1905 года, бо яе прычыны японцы тлумачаць па-свойму, расіяне — інакш, а ў ЗША наогул лічаць яе памылкай. Тое ж можна сказаць практычна аб усіх войнах і, у тым ліку, аб 2-й сусветнай вайне. Аднак толькі дэталёвае, глыбіннае вывучэнне яе сутнасці дазволіла самім немцам пакаяцца і зрабіць усё неабходнае, каб больш вайнаў не было зусім. Адпаведна і сама Расія асудзіла вельмі многае, што звязана з пачаткам той вайны. Менавіта таму немцы адносяцца да рэспублік былога СССР дружалюбна. Як жа разумець і ў гэтым сэнсе Вашы выказванні?

3. У "Настаўніцкай газеце" 10 лютага 1996 года ёсць Вашы выказванні аб тым, што "Праект напрамкаў рэформы (адукацыі — аўт.) ... з'явіўся на падставе прадвыбарнай праграмы прэзідэнта". Аднак у прадвыбарнай праграме А.Лукашэнкі зусім няма меркаванняў аб рэформе адукацыі. Гэта папершае. А па-другое, тая праграма — далёка не Боскае стварэнне, каб на яе маліцца. Зноў атрымліваюцца недарэчнасці. А мо гэта ўгодніцтва?

4. У той жа "Настаўніцкай газеце" ёсць Вашы словы: "У другой палове 1995 года я некалькі разоў сустракаўся з прэзідэнтам і абмяркоўваў пытанні рэформы. Прэзідэнт выказаў думку, з якой я цалкам згодзен, што ў фундаменце нашай будучай школы павінна быць савецкая школа". Адпаведна напрошваецца пытанне: знайшлі непагрэшнага вялікага генія педагогікі ці гэта нешта іншае? Дарэчы, савецкая школа мела такую загану, якую ў будучае нельга пускаць ні ў якім разе: яна вучыла дагматызму, абалваньвала свядомасць, прывучала бачыць і чуць адно, разумець другое, рабіць трэцяе, даваць у тлумачэнне чацвёртае. Яна паралізоўвала ініцыятыву грамадзянскага пошуку і інш. Няўжо гэта зноў павінна ўваскрэснуць? Сучасная школа ў многім адышла ад таго ганебнага. А Вы зноў назад?

5. Па Вашай ініцыятыве ў першых беларускамоўных класах уведзены рускі "язык", названы хітра "Родничком". Аднак руская і беларуская мовы роднасна блізкія. Часта напісанне па-беларуску ўспрымаецца памылкай па-руску. Гэта пры панаванні "могучего русского языка" выклікае пратэсты бацькоў супраць беларускай мовы ў выглядзе заклікаў: НАВОШТА ЯНА, ЯНА ШКОДЗІЦЬ! Такім чынам Вы ўскосна нацкоўваеце бацькоў супраць беларускай мовы, прымушаеце беларусаў быць самазабойцамі сваёй нацыі. А між іншым, нават немцы пасля апошняй вайны, ствараючы для перамешчаных туды беларусаў школы да трэцяга класа, давалі на вывучэнне толькі беларускую мову, каб яна ўсталёвалася, а ўжо потым — нямецкую, хоць яна не мае радства з беларускай. Дык як разумець Вашы новаўвядзенні накшт "Родничка" і інш.?

6. Ці ведаеце Вы, што Вас (не так ужо рэдка) у інтэлігенцкім асяродку называюць памагатым знішчальнікаў беларускай мовы і нацыянальнасці наогул? Такое знішчэнне — вялікі грэх, бо нацыі і іх мовы — Боскія стварэнні. Ці згодны Вы з гэтым?

# Што трэба рабіць беларусу

Самую вялікую ролю ў захаванні беларускамоўнай адукацыі ў школе адыгрываюць, безумоўна, бацькі, якім патрэбна, каб іх дзеці вучыліся пабеларуску. Там, дзе бацькі загадзя рупяцца аб лёсе сваіх дзяцей, праяўляюць актыўнасць, дастатковую цвёрдасць і настойлівасць, там удаецца насуперак нежаданням адміністрацыі некаторых школ дамагчыся, каб ваша дзіця вучылі па-беларуску, а таксама не дапусціць ліквідацыі беларускіх класаў. Там жа, дзе бацькі спадзяюцца на тое, што іх правы навучаць дзяцей на роднай мове не будуць парушаны, і пасіўна чакаюць пачатку навучальнага года, там і класы ліквідуюцца, і бацькі пазбаўляюцца магчымасці вучыць дзяцей па-беларуску. Самае большае, што можна зрабіць 1 верасня — гэта гучна грукнуць дзвярыма ў кабінеце дырэктара школы, таму трэба дзейнічаць неадкладна!

Што трэба рабіць сёння?

**Бацькі павінны ўзяць абарону сваіх правоў у свае рукі. Для гэтага кожны з нас павінен знайсці ў класе, дзе вучыцца дзіця, школе, мікрараёне, горадзе, вёсцы аднадумцаў. Хай вас будзе толькі двое, ці нават вы адзін, але вы павінны:**

Засведчыць на ўсіх магчымых узроўнях, што ёсць бацькі, якія будуць, нягледзячы ні на што, вучыць дзяцей пабеларуску. З гэтай мэтай вы павінны даведацца пра сітуацыю з беларускай мовай у вашай школе, асабліва якая пазіцыя ў дырэктара школы. Калі ў вас ёсць падставы для сумненняў, або факты аб намерах ліквідаваць беларускі клас, ці аб спробах не дапусціць беларускамоўнага навучання, то ідзіце да загадчыка раённага аддзела адукацыі. Не палануйцеся выкласці свае сумненні і факты на паперы, а таксама сфармуляваць свае законныя патрабаванні і зарэгістраваць ваш ліст у РАА. Вынікам вашых дзеянняў павінны быць гарантыі з боку прадстаўнікоў улады, што ў дадзеным класе, у дадзенай школе, нарэшце, у адносінах да вашага дзіцяці правы не будуць парушацца. У ліку вашых патрабаванняў да органаў адукацыі павінны быць таксама:

1. Строга захоўваць, а там, дзе ён быў парушаны, аднавіць статус беларускіх школ і дзіцячых садкоў, які ім быў нададзены на працягу 1989-1994 г.г., і згодна "Дзяржаўнай праграме развіцця моваў", зацверджанай пастановай Савета Міністраў у 1990 г.

2. Свабоду выбару мовы навучання ажыццяўляць выбарам школы з беларускай або расійскай мовай навучання, а не шляхам адкрыцця ў беларускіх школах расійскіх класаў з пазнейшай поўнай ліквідацыяй беларускіх. Пры гэтым павінна быць рэальная, а не міфічная магчымасць вучыць дзяцей пабеларуску, што магчыма, калі кожная другая школа і дзіцячы садок застануцца беларускімі.

3. Настаўнікі па ўсіх прадметах, якія выкладаюць у беларускіх класах, павінны валодаць беларускай мовай. Калі гэта патрэбна, то загадзя забяспечыць іх вучобу.

4. Падтрымання моўнага рэжыму беларускіх школ.

5. Асаблівую ўвагу звярнуць на асобныя беларускія класы ў расійскамоўных асяроддзі, шляхам надання ім прэстыжнасці, інакш існуе небяспека ператварэння гэтых класаў у непрэстыжныя і забытыя "рэзервацыі".

6. Падтрымаць тых настаўнікаў, дырэктараў школ, адміністрацыю, якія імкнуцца захаваць і пашырыць беларускамоўнае навучанне ў сваіх школах і класах.

Схадзіце з падобнымі лістамі на прыём да вашых дэпутатаў усіх узроўняў. Не лішнім будзе, калі вы звернецеся з лістом у газету, у Камісію Вярхоўнага Савета па адукацыі, у Камісію па правах чалавека.

Калі вы бачыце, што час праходзіць і ваш клас усё-такі намераны перавесці на расійскую мову навучання, або не дапусціць, каб дзіця вучылася ў школе па-беларуску, пікетуйце органы адукацыі, ці школу. Калі не ведаеце, як гэта робіцца, то можаце звярнуцца па дапамогу да прадстаўнікоў дэмакратычных партый або грамадскіх арганізацый. Для таго, каб выставіць пікет, трэба за два тыдні зарэгістраваць паведамленне аб гэтым у райвыканкаме. Добра, калі пра пікет ведаюць прадстаўнікі прэсы.

Апошняя інстанцыя — праз суд дамагчыся задавальнення вашых патрабаванняў. На вашым баку Канстытуцыя і Законы.

Асабліва пільнымі і актыўнымі павінны быць бацькі, дзеці якіх пойдуць у пяты клас і бацькі будучых першакласнікаў. Першым парам патрабаваць ад дырэкцыі школы пазнаёміць бацькоўскі камітэт, або ўсіх бацькоў з настаўнікамі, якія будуць выкладаць па-беларуску прадметы ў 5-м класе. Другім парам схадзіць да дырэктара школы, пацікавіцца ўзроўнем навучання і адносінамі да беларускамоўнага навучання, а таксама заявіць аб сваім цвёрдым намеры вучыць дзіця па-беларуску.

**Памятайце, такіх, як вы, многа, але вам трэба згуртавацца ў вашым горадзе ці раёне для сумесных дзеянняў і дапамогі. Пастарайцеся знайсці адзін аднаго шляхам аб'яў у газетах, расклейкі лістовак і іншымі спосабамі. Указвайце пры гэтым тэлефон для сувязі.**

# Гісторыя і гісторыкі

***Апошнім часам у друку з'явіўся цэлы шэраг артыкулаў, аўтарамі якіх — удзельнікамі навуковага аб'яднання "Гістарычныя веды" — выказваюцца прэтэнзіі да працаў беларускіх гісторыкаў, у бок якіх гучаць абвінавачванні нават у навуковай фальсіфікацыі. Каб зразумець, што дае асобным навукоўцам падставы да такіх выказванняў, прапануем чытачам кароткі агляд прафесійных дасягненняў найбольш вядомых аўтараў як апошняй з такіх публікацый — артыкула "Наватарства ці фальсіфікацыя?", апублікаванага 6 жніўня ў газеце "Звязда", так і ранейшых.***

Першы з іх — 85-гадовы прафесар А.Залескі, спецыяльнасць якога не гісторыя, а этнаграфія, а тэма доктарскай працы — побыт лагераў савецкіх партызанаў у часы апошняй вайны.

Пенсійнага ўзросту дасягнуў і прафесар А.Хахлоў. Сваю навуковую кар'еру ён зрабіў, вывучаючы дзейнасць у Беларусі чырвонагвардзейскіх атрадаў на мяжы 1917-1918 гадоў ды барацьбу створанай бальшавікамі ЧК супраць "бандытаў" — удзельнікаў "Зялёнага дуба" ды іншых нацыянальна-вызвольных арганізацый.

Вядомым спецыялістам з'яўляецца член-карэспандэнт АНБ А.Жураўскі, але ў сферы не гісторыі дзяржавы, а філалогіі — гісторыі мовы.

Яшчэ адзін член-карэспандэнт Акадэміі навук — У.Няфёд — таксама гісторык не звычайны. Яго спецыялізацыя — мастацтвазнаўства: гісторыя беларускага тэатральнага мастацтва савецкага часу.

Доктар гістарычных навук, прафесар У.Палуян — спецыяліст у гісторыі Заходняй Беларусі, аўтар кніг пра барацьбу сялян і работнікаў гэтага рэгіёна за сваё сацыяльнае вызваленне.

Але ці не найбольш адметнай у гэтым шэрагу з'яўляецца постаць члена-карэспандэнта АНБ П.Петрыкава. Былы дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук, ён сышоў адтуль пасля таго, як спачатку двойчы быў праваленны на выбарах у навуковую раду, а потым і на пасаду дырэктара. Пасля з'яўлення ў друку шэрагу падпісаных ім артыкулаў з нападкамі на кіраўніцтва Інстытута гісторыі і на першых два тамы "Беларускай гістарычнай энцыклапедыі", 69-гадовы пенсіянер П.Петрыкаў быў прызначаны на адмыслова створаную пасаду першага намесніка галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя".

**У артыкулах, падпісаных гэтымі ды іншымі, менш вядомымі ў навуковым асяроддзі асобамі, у скажэнні гістарычных фактаў абвінавачваліся кіраўнікі Інстытута гісторыі ды такія навукоўцы, як У.Конан, М.Ермаловіч, А.Грыцкевіч ды іншыя.**

***З просьбаю пракаментаваць публікацыі ўдзельнікаў "Гістарычных ведаў" карэспандэнт "Нашага слова" звярнуўся да асобы, імя якой у іх згадвалася — да доктара гістарычных навук, прафесара, загадчыка кафедры філасофіі і гісторыі Беларусі Беларускага універсітэта культуры, члена-карэспандэнта Міжнароднай Акадэміі Навук Еўразіі, сябра рэспубліканскай Рады ТБМ Анатоля Грыцкевіча, які сказаў наступнае:***

— Шэраг артыкулаў, падпісаных адным і тымі ж асобамі, падаецца мне пачаткам кампаніі супраць гісторыкаў, якія маюць нацыянальна-дзяржаўны падыход да разгляду падзеяў гісторыі Беларусі. Але менавіта такой — нацыянальна-дзяржаўнай — канцэпцыяй карыстаюцца гісторыкі ўсіх незалежных краін. Гэта нармальная з'ява. І толькі ў Беларусі з яе спадчынай савецкага мыслення стварылася група гісторыкаў (пераважна старога веку), якія разглядаюць мінулае нашай краіны з класавых, бальшавіцкіх, вялікадзяржаўных пазіцыяў.

Але нацыянальна-дзяржаўную канцэпцыю нашай гісторыі, якую яшчэ ў 70-х гадах пачалі распрацоўваць М.Ермаловіч, М.Ткачоў, гісторык культуры А.Мальдзіс ды іншыя, сёння прыняла большасць нашых калегаў. Яны даследуюць гісторыю не заходняга рэгіёну Расіі ці СССР, а Беларусі, незалежнай дзяржавы.

Аднак знайшліся людзі, якія карыстаюцца сённяшняй палітычнай кан'юнктурай, гэтым наступам антыбеларускіх сілаў і самі робяцца яго ўдзельнікамі.

**— Якую канцэпцыю гісторыі Беларусі прапануюць яны?**

— Імі прапануецца вяртанне да канцэпцыі сталінскага ўзору — 40-50-х гадоў. У 1948 годзе ЦК КПБ зацвердзіў тэзісы гісторыі Беларусі, якія былі надрукаваныя ў 8-9 нумарах часопіса "Бальшавік Беларусі" за 1948 год. Згодна з імі, гісторыя нашага народа і краю мелася разглядацца з пазіцыяў існавання іх як частак адзінай краіны — СССР і адзінага народа — савецкага. Паводле той канцэпцыі, беларускі народ уласнай гісторыі не меў, а ўвесь час цягнуўся да маскоўскай дзяржавы, якая яго "вызваляла ад літоўскай агрэсіі" ды "абараняла ад польскага прыгнёту". Паводле яе ж, дзеячы нацыянальна-вызвольнага руху абвяшчаліся здраднікамі, а росквіт нацыянальнага жыцця беларусаў прыпадаў на савецкі час.

**— Найбольшую ўвагу сябры "Гістарычных ведаў" надаюць гісторыі БНР і БЦР...**

— Гэта робіцца адмыслова, каб паказаць існуючую, на іхні погляд, сувязь паміж поглядамі калабарантаў часоў розных акупацыяў і сучасных нацыянальных гісторыкаў. Гэта робіцца і з жадання падаць усіх беларускіх дзеячоў памагатымі нямецкіх акупацыйных уладаў.

Гэткі спосаб вырашэння гісторыкамі прафесійных спрэчак я назваў бы палітычнымі даносамі ў стылі 1937-га года, аўтары якіх мянуюць гісторыкаў фальсіфікатарамі і нацыяналістамі.

Сёння першыя асобы краіны імкнуцца ідэю нацыянальнай незалежнасці падмяніць ідэяй славянскага адзінства ў межах былога Савецкага Саюза. Ёсць гэткі сацыяльны заказ і ёсць яго выканаўцы, якія ствараюць адпаведную гісторыю Беларусі на ўзор вершыка "Всем известно, что Земля начинается с Кремля".

Гэта — спроба вяртання ў самае змрочнае нашага мінулага. Але я — гісторык і таму ведаю: спробы здзейсніць гэта ніколі не мелі поспеху.

**Падрыхтаваў У.ПАНАДА.**

*Культурнае жыццё*

# Упершыню на Пастаўшчыне

Апошнім часам на Пастаўшчыне ажывілася культурнае жыццё. Штогадовае свята "Звіняць цымбалы і гармонік" вядома і за межамі Рэспублікі Беларусь. Пры газеце "Пастаўскі край" дзейнічае літаратурнае аб'яднанне "Світанак", выдаюцца літаратурныя альманахі і кніжкі. Памятаюць тут і свайго славутага земляка, які нарадзіўся ў ліпені 1900 года ў вёсцы Агароднікі — Уладзіміра Дубоўку. Дзякуючы намаганням настаўніка і паэта з Паставаў Ігара Пракаповіча, нядаўна на малой радзіме песняра адбыўся пленэр-семінар "Даўжанскія вечары" з мэтай ушанавання памяці аўтара знакамітых радкоў "О, Беларусь, мая шыпшына!.." і арганізацыі літаратурных сустрэч. Праект семінара быў прапанаваны І.Пракаповічам на конкурс, аб'яўлены Беларускім Фондам Сораса. Фонд праект ухваліў і аказаў фундатарскую дапамогу.

У вёску Дзеравянкі, што на беразе возера Доўжа, каля якога не раз бываў у маленстве Дубоўка і пра якое згадваў у сваіх творах, з'ехаліся літаратары з Менска, Віцебска, Полацка, Глыбоччыны і Пастаўшчыны. Яны з хваляваннем гаварылі пра жыццёвы і творчы шлях паэта, пра яго́ныя амаль трыццаць гадоў у сталінскіх "жорнах", пра загадкавасць і прароцтва яго паэзіі. Захапляючай была экскурсія па мясцінах, звязаных з жыццём творцы, знаёмства з гістарычнымі і культурнымі помнікамі ў Манькавічах, Лучаі, Дунілавічах, Асінавым Гарадку і ў Варапаеве. Ну а ў вольны час адбыліся вандроўкі па лесе, прагулкі на лодцы, спяванне песень пад акампанемент вядомага крытыка і цудоўнага баяніста Генадзя Шупенькі, які, дарэчы, у свой час быў знаёмы з Дубоўкам.

Уладзімір Арлоў, Валянціна Аксак, Яўген Лецка, Генадзь Шупенька, Алесь Жыгуноў, Франц Сіўко, Марыя Баравік, Міхась Кенька, Аркадзь Нафрановіч, Ганна Жук, Алесь Касцень і іншыя вядомыя і менш вядомыя літаратары па заканчэнні пленэру-семінара падзякавалі І.Пракаповічу, яго калегам і радні за гасціннасць, за цеплыню сэрцаў. А самая вялікая падзяка, вядома ж, Уладзіміру Дубоўку за яго́ны талент, за самаахвярнае служэнне Беларусі і роднаму слову. Хочацца спадзявацца, што сустрэчы на Пастаўшчыне будуць працягвацца і пашырацца кола людзей, адданых гэтым словам паэта:

*О, Беларусь! Я на цябе малюся,*
*Тваім шляхам — прыйду ў шырокі свет...*

**Янусь МАЛЕЦ, удзельнік "Даўжанскіх вечароў".**

# Працэс над украінцамі можа быць закрытым

У пачатку верасня павінен адбыцца суд над украінскімі грамадзянамі, арыштаванымі 26 красавіка пад час "Чарнобыльскага шляху". Зараз украінцы знаёмяцца з абвінавачымі заключэннямі, іх узяліся абараняць вядомыя беларускія адвакаты Надзея Дударава, Вадзім Калеснікаў і Арсеній Скарулі́с. Адвакаты лічаць працэс над украінцамі палітычным і таму абараняюць абвінавачваемых бясплатна. Як удалося высветліць, пад час следства было дапушчана шмат парушэнняў крымінальна-працэсуальнага кодэксу. Нядаўна В.Патапаву адмовілі ў сустрэчы з адвакатам, матывуючы гэта тым, што пад час папярэдняга следства ён нібыта адмовіўся ад адвакатскіх паслуг. Такім чынам улада спрабуе аказаць ціск на абвінавачваемых. Яшчэ адзін прыклад. Некалькі дзён таму ў следчы ізалятар пранік вядомы "кінарэжысёр" Ю.Азаронак і пачаў здымаць украінцаў супраць іх волі. Следчы С.Новікаў клянецца, што ніякага дазволу на сустрэчу і здымкі абвінавачваемых Азаронку не даваў. Якім жа чынам гэты "славянскі віцязь" трапіў да іх у камеры? Пытанне рытарычнае. Адвакат В.Калеснікаў лічыць, што суд будзе ператвораны ў палітычную расправу над іншадумцамі. Апошнія дзеянні следчых і супрацоўнікаў пракуратуры дазваляюць яму так меркаваць. У афіцыйных СМІ гэтыя ўкраінскія грамадзяне паказваюцца як нацыяналісты, бандыты і г.д. Для В.Калеснікава яны менавіта грамадзяне суседняй краіны, браты-славяне, а не сябры УНА-УНСО. Гэтыя людзі прыехалі ў гадавіну Чарнобыльскай трагедыі да сваіх беларускіх сяброў, каб разам падзяліць смутак і боль, бо сярод украінцаў шмат удзельнікаў ліквідацыі наступстваў той аварыі. Былы падпалкоўнік-"афганец" і ліквідатар В.Салавей прыехаў у Менск менавіта з такой мэтай. Прыйшоў на той жалобны мітынг, пасля якога быў схоплены і пасаджаны ў турму. Відавочна баявы афіцэр і не падазраваў, што ўдзел у такіх мерапрыемствах у Беларусі лічыцца крымінальным злачынствам.

Адвакаты занепакоены тым, што працэс можа стаць практычна закрытым. Суд Цэнтральнага раёна Менска, у якім плануецца правесці пасяджэнне, размешчаны ў старым будынку. Яго залы могуць змясціць не больш за 20 чалавек. Пры тым, што падсудных будзе суправаджаць узмоцнены канвой, плюс суддзя, пракурор, адвакат і сваякі ўкраінцаў, то ў зале месца журналістам можа і не быць, а асвятляць гэты суд у незалежных сродках масавай інфармацыі ў сённяшніх умовах надзвычай важна.

**Язэп СІНІЦКІ.**

*Актуальна*

# Разам зберажом сваё

Па захаванасці беларускамоўных класаў у мінулым навучальным годзе Слуцк, калі верыць статыстычным звесткам гарадскога аддзела адукацыі і намесніка яго загадчыка Любові Фёдараўне Гурбо, займаў у Менскай вобласці прыярытэтнае месца. Мяркуйце самі: родную мову ў дзесяці беларускамоўных школах (з адзінаццаці існуючых) вывучалі 768 першакласнікаў, расійскую — 351. У чатырох школах — 4-й, 7-й, 9-й і 12-й — не перавялі на працягу года на расійскую мову навучання ніводнага з пачатковых класаў, хоць спробы асобных груп бацькоў мелі месца. Ім раілі перавесці сваіх дзяцей у расійскамоўную 8-ю СШ, што знаходзіцца ў 11-м гарадку, дзе пражываюць пераважна былыя вайскоўцы-расійцы. І таму канфліктаў паміж такімі бацькамі і настаўнікамі не ўзнікала.

Усяго ж, па пяты клас уключна, беларускую мову ў горадзе вывучалі 890 дзяцей, расійскую — 153.

Затое ўжо ў шостых класах статыстыка не на карысць роднай мовы: яе вывучалі ўсяго 144 школьнікі (і толькі ў названых вышэй чатырох школах), расійскую — 1000. А пачынаючы з восьмых класаў ва ўсіх адзінаццаці школах горада выкладанне вялося выключна на расійскай мове.

І ўсё ж сам факт, што ў горадзе ўдалося захаваць 24 беларускамоўныя першыя класы, робіць гонар настаўнікам-беларусаведам, дырэктарам школ — не ў прыклад іх сталічным калегам, хто паддаўся ліквідатарскім настроям. Сёння, калі беларуская мова пакуль не атрымала энергічнай, мэтанакіраванай падтрымкі ад дзяржавы, вельмі важна самім свядомым грамадзянам адстаяць тое, што было набыта за чатыры гады "адлігі", не даць шляху ганебнаму варыянту вырашэння моўнай праблемы ў агульнаадукацыйных школах праз надуманае "жаданне бацькоў", якое не мае ніякай прававой асновы, амаральнае і разбуральнае па сваёй сутнасці.

У гэтым плане заслугоўвае ўхвалы стыль работы, адносін да моўнай праблемы дырэктара 12-й СШ Анатоля Антонавіча Самойлава, дарэчы, расійца па паходжанні. Ён — сібірак, нарадзіўся і вырас у Омску, там скончыў педагагічны інстытут, факультэт фізікі. З-за цяжкай хваробы сына, па парадзе ўрачоў, яны з жонкай мусілі пераехаць у Беларусь, дзе жылі яе бацькі-беларусы. Сем гадоў таму Анатоль Антонавіч прыняў кіраўніцтва гэтай школай, што размешчана на заходняй ускраіне горада, у новым прамысловым мікраёне. З яговых слоў, беларускую мову ведае як і расійскую — дапамагла жонка, завуч 6-й СШ. Палюбіў мову за зграбнасць, за багацце трапных, каларытных слоў. За адно лета неяк прачытаў сорак кніг беларускіх пісьменнікаў. А таму прызнанне Канстытуцыяй РБ беларускай мовы адзінай дзяржаўнай сустрэў з разуменнем і адабрэннем, свае погляды давёў да настаўніцкага калектыву і атрымаў падтрымку. У гутарках з калегамі-дырэктарамі школ Анатоль Антонавіч выказваўся не раз за перавод усіх агульнаадукацыйных школ на беларускую мову навучання. Але з умовай: пачынаючы са старэйшых класаў, хімію, фізіку, матэматыку, урокі вылічальнай тэхнікі весці на расійскай мове. Усе астатнія прадметы — на беларускай. Яго аргументы называлі абсурднымі, а адзін былы чыноўнік нават выказаўся так: "Ды бацькі вас на вілы за гэта ўзнімуць". А ён прыводзіў у прыклад Фінляндыю, дзе дакладныя навукі ў агульнаадукацыйных школах выкладаюцца толькі на французскай мове, на ёй і падручнікі купляюцца за мяжой. На думку фінскіх педагогаў, гэтае ноўшаства ніколькі не ахаладзіла любові фінскіх дзяцей да роднай мовы.

Варыянт з расійскай мовай у старшых класах пры выкладанні дакладных навук, на думку Анатоля Антонавіча, нельга скідваць з рахунку да таго часу, пакуль нашы вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы не стануць беларускамоўнымі. А мяркуючы па адносінах да мовы прэзідэнцкага атачэння, такое не хутка збудзецца.

Але, нават ва ўмовах сённяшніх у школе, за сем гадоў з прыходам Анатоля Антонавіча адносіны вучняў да роднай мовы змяніліся ў лепшы бок.

— Іх веданне мовы на экзаменах, якія прайшлі вясной, асабліва ў старшакласнікаў, адрознівалася ад ведаў выпускнікоў канца васьмідзесятых гадоў як неба і зямля,— гаворыць з задавальненнем дырэктар.— Сёлета мы прынялі загадзя захады, каб усе сем першых класаў у наступным навучальным годзе былі толькі беларускамоўнымі. Запрасілі на сход у школу 127 бацькоў вучняў-"першачкоў". Амаль дзве гадзіны вялася зацікаўленая з абодвух бакоў размова. Я не ўпрошваў — больш пераконваў, сарамаціў тых, хто грэбуе роднай мовай, лічыць яе непатрэбнай для будучага сваіх дзяцей. І паверыце — сто дваццаць пяць чалавек пагадзіліся са мною і толькі двое сказалі, што яны падумаюць, у які клас аддаваць дзетак.

Не малая роля ў павышэнні прэстыжнасці беларускай мовы належыць і нашым настаўнікам. У пачатковыя класы бяру тых, хто добра ведае родную мову, а хто слаба — раю прайсці перападрыхтоўку на курсах. З нежадаючымі перабудавацца давялося развітацца, яны падшукалі работу ў іншых школах. У нас абодва завучы — Тацццяна Іванаўна Рогач і Ніла Флёраўна Галоцік,— дарэчы, украінка па паходжанні, свабодна валодаюць беларускай мовай, а Ніла Флёраўна і выкладае яе.

Тым не менш, настроі беларусафобіі сярод пэўнай і не маленькай праслойкі бацькоў, асабліва ў расійскамоўных сем'ях былых вайскоўцаў-адстаўнікоў, дый сярод карэнных жыхароў, у горадзе адчувальныя. Пад уціскам такіх "жадаючых" у сярэдніх школах №№ 5 і 6 у мінулым навучальным годзе, недзе ў другой чвэрці, на расійскую мову навучання былі пераведзены па адным другім класе. Падобныя факты мелі месца і ў іншых школах, хоць і не масава. І калі там зараз будуць скрозь пальцы глядзець на гэты небяспечны працэс, рэцыдывы непрыхаванай беларусафобіі могуць нанесці непапраўную шкоду справе адраджэння роднай мовы і паўнацэннаму развіццю дзяцей.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**член Слуцкай гарадской і раённай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.**

*Жыццё таварыства*

# Што за ордэн?

Таварыства беларускай мовы з часу заснавання мае свой знак, сваю эмблему. Хто ж яе не ведае! ...У крузе на блакітным фоне выява герба Францішка Скарыны — сонца і паўмесяц. Вакол Скарынавага герба па кругу, па яго краёмцы, надпіс: "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Угары над Скарынавым знакам, на вынасе, гістарычны герб Вялікага княства Літоўскага — Пагоня. Чырвонае поле шчыта, выява конніка — вершніка — срэбраная. Уверсе перарывае круг і абвівае шчыт бела-чырвона-белая стужка. Гэта сімвалы гістарычнай памяці нашага народа, яны знітоўваюць лепшыя здабыткі нацыянальнай культуры, яе скарбы, гераічныя падзеі народнай гісторыі, незалежнасць і дзяржаўнасць беларускага народа і дзяржаўнасць беларускай мовы як у старажытныя часы, так і ў гістарычнай перспектыве. Эмблема выканана ў класічных традыцыях беларускай гістарычнай геральдыкі і яе правілаў, законаў. Гэты ж знак бачым на бланках Таварыства беларускай мовы. Ён аздабляе і газету Таварыства "Наша слова". Гэты знак стаў і асновай нагруднага значка сяброў Таварыства беларускай мовы. Значок вельмі пекны, гожы, і па-мастацку вырашаны добра. Сваёй парой таварыства, вядома, надзяліла такім значком і мяне. Ён мне вельмі падабаецца, але я яго, як і шмат хто, прызнаюся, доўга не насіў. Люблю збіраць значкі, люблю калекцыянаваць іх, а вось на людзі не заўсёды асмельваўся з імі выходзіць, не хацелася, каб на цябе лішні раз зыркалі. І гэтак было да тае пары, пакуль не адбыўся так званы рэферэндум па мове. Рэферэндум жа абвастрыў маю душу: "Дай жа, думаю, я з гэтым значком на вуліцу выйду, у аўтобусах ды метро паеду... І ўсюды і скрозь з ім буду хадзіць — пагляджу, што людзі будуць казаць". Была і яшчэ адна думка: "Хай ведаюць рэферэндцы, што я на сваёй зямлі, што мяне не палохаюць ніякія іхнія рэферэндумы, што я быў і застаюся адданы сваёй мове і ніякае скавытанне, ніякі шал, нават самы дзікі, не саб'е мяне з тропу, адно толькі яшчэ больш загартуе мой дух..." Вось з такімі думкамі я пачаў насіць значок Таварыства беларускай мовы. Як ні дзіўна, але ані ў аўтобусе, ані ў метро ці тралейбусе, спазнаўшы, што гэта ў мяне за значок такі, ніхто і ні разу не зачапіў, ніхто не нахаміў ці нават незадаволена буркнуў. Углядацца ўглядаліся, што гэта ў мяне за каралеўскі ордэн, а ён сваёй красой і naпраўду на гэта цягне, ніхто ніякага — благога ці крыўднага слова не сказаў. А тое, што ўглядаліся, дык гэтага я і хацеў, каб углядаліся, каб ведалі, што на Беларусі ёсць такое таварыства, што яговыя сябры ганарацца сваёй моваю і нават у гэтую, гаркавую пасля рэферэндуму, часіну ходзяць па сваёй зямлі з горда ўзнятай галавой. І гэтага, я здаецца, дасягнуў. Але няўжо так ні ў кога не было ніякіх пытанняў? Чаму ж не было? — Былі. Але як гэта ні дзіўна — пераважна сярод маіх калегаў, тэлевізійнікаў. Амаль не было такога дня, каб хто-небудзь з іх ды не папытаўся: "А што гэта за значок у цябе такі?" І я адказваў — адказваў кожнаму паасобку. Адным казаў і кажу так, як яно ёсць: гэта значок Таварыства беларускай мовы, іншаму дуру галаву, што гэта міжнародны знак славянства, трэцім казаў, ці чулі яны што-кольвек пра нацыяналістаў на Беларусі. То вось гэта іхні значок. Штосьці казаў я і пра шляхту і шляхетнасць. Казаў часам з іроніяй, здаралася — і жоўцю. Усё залежала, хто перада мною быў, якая асоба, які яе інтэлект, накірунак. Чаму я так рабіў? Мне было крыўдна. Амаль шэсць гадоў, як існуе Таварыства беларускай мовы, яго эмблема, а многія да гэтай пары ні разу не бачылі ні эмблемы Таварыства беларускай мовы, ні яго значка. Ну але што з тых маіх тэлевізійнікаў возьмеш. Тэлевізія ніколі яшчэ пакуль не была беларускім аазісам, хаця памкненні да гэтага былі... Але самае з усяго гэтага прыкрае, што пытанне: "Што гэта ў цябе за значок?" — мне даваўся чуць і ад некаторых пісьменнікаў. Вось на іх я такі і добра заззлаваў і гарадзіў ім часам такое, чаго мо й ніколі не збіраўся гарадзіць, але мусіў. Прыкладам, аднаму з іх я сказаў: "Гэта новы, толькі што ўсталяваны Лукашэнкам ордэн. Называецца ён "Знанаму і Заслужанаму". І першым Усенародна Абраны ўзнагародзіў мяне".

Можна яшчэ шмат згадаць розных размоў вакол тэбээмаўскага значка, якія мне выпала пачуць. Але мне не толькі пра гэта хацелася расказаць. Турбуе мяне яшчэ і вось што. Чаму сябры Таварыства беларускай мовы, выпусціўшы такі прыгожы, жочны нагрудны значок, не носяць яго. Гэта цяпер так патрэбна, можа, як ніколі... Гэта не такая ўжо, у цяперашнім нашым жыцці, і дробязь. Значкі на лацкане абуджаюць у людзей згадкі пра мову, размовы пра мову. То ці так ужо гэта мала? Прыгадваю, страчаліся і такія, хто пабачыўшы тэбээмаўскі значок, зажадаў стаць сябрам Таварыства. Дык чаму не носім? Хто ці што замінае? Для чаго тады выраблялі, выпускалі? А выпусцілі нямала — тысяч пад дваццаць. Тым не менш, за год пасля рэферэндуму я ні ў кога не бачыў тэбээмаўскага значка: ні ў кіраўнікоў Таварыства, ні ў школьнікаў, ні нават у яго стваральніка... Што б усё гэта азначала? Няўжо я і надалей паранейшаму у гордай адзіноце на ўсю Беларусь буду адзін насіць тэбээмаўскую эмблему, нагадваючы праз яе пра Таварыства беларускай мовы, пра саму мову? А можа ўсё такі возьмем прыклад пашаны да ганаровых знакаў у ветэранаў і прышпілім тэбээмаўскія значкі сяброў Таварыства беларускай мовы да лацканоў сваіх сурдутаў? Хай яны ўсюды і штодня нагадваюць усёй грамадзе Рэспублікі Беларусь пра нашу мову, пра Таварыства беларускай мовы і яе сімпатыкаў, абаронцаў! Паміж іншым, значкі з эмблемай Таварыства беларускай мовы, як мне паведамілі з Цэнтра эстэтычнага выхавання, вельмі падабаюцца іншаземцам. Яны з прыемнасцю прымаюць іх як сувеніры і вязуць іх з Беларусі ў свае краіны. А што ж мы? Адно толькі здольныя наракаць на сваю долю. Але што тут наракаць, калі як след не шануем нават таго, што маем, не карыстаемся ім належна. Ці ж гэта не так?!

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

# Графіня-гаспадыня з Лагожаска

Логожеск... Лагойск... У гэтых словах — старадаўнім і сучасным — выразна чуецца корань — "лог", сінонімам якога можа быць "дол", "даліна". Сапраўды, цяперашняе мястэчка Лагойск месціцца (і з незапомных часоў месціўся) у пойме ракі Гайны, пра якую паэт сказаў: "Гайна, Гайна, што за рэчка! Прыгажэйшае няма...",— сярод маляўнічых узвышшаў і пагоркаў. Тут былая вотчына славутага магнацкага рода Тышкевічаў, братоў Канстанціна і Яўстафія,— заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі, гісторыкаў, этнографаў і краязнаўцаў. Ды я хачу звярнуць увагу чытачоў на жонку Кастуся Тышкевіча, графіню Паўліну з роду князёў Ціхановецкіх, якую нашы краязнаўцы чамусьці абыходзяць увагай.

Гэта была надзвычай абаяльная, адукаваная і энергічная жанчына. Браты Тышкевічы былі ў асноўным заняты навуковай дзейнасцю, часта падарожнічалі, а на яе плячах ляжала вялікая і складаная гаспадарка. Яна была мецэнаткай аднаго з першых на Беларусі санаторыяў, у якім вадой з мясцовых крыніц лячылі захворванні вачэй, страўніка, кішэчніка і псіхічна-нервовыя хваробы. Да самай першай рэвалюцыйнай буры ў Расіі графіня Ціханавецкая-Тышкевічанка вяла ў Лагойскім графстве гаспадарку — трымала ружоўнік, вялікую стайню, малачарню, вяндлярню, лядоўню і іншыя гаспадарчыя аб'екты.

У Менску ў музеі М.Багдановіча захоўваюцца матэрыялы пра славуты род на Беларусі графоў Тышкевічаў.

Шанаванне гэтаму слаўнаму роду!

**Мікола СІДАРЭВІЧ.**
в.Пасадзец Лагойскага раёна.

*З рэдакцыйнай пошты*

# Чаго ў Баранавічах няма

У Баранавічах ёсць вуліца Курчатава, але няма вуліцы А.Жэбрака або В.Купрэвіча, ёсць Дзімітрава — няма Максіма Багдановіча, ёсць Тэльмана — няма Змітрака Бядулі, ёсць Мечнікава — няма Максіма Танка, ёсць Вільямса — няма Аркадзя Куляшова, ёсць Куйбышава — няма Петруся Броўкі, ёсць Горкага — няма Янкі Купалы, ёсць Д.Беднага (о, Божа!) — няма Скарыны, ёсць Жукоўскага — няма Буднага, ёсць Калініна — няма Андрэя Рымшы, ёсць Кірава — няма Канстанцыі Буйло, ёсць Арджанікідзе — няма Яўхіма Храптовіча, ёсць Свярдлова — няма Івана Чыгрынава, ёсць Розы Люксембург — няма Пімена Панчанкі...

Ёсць збор на шыльдах вуліц у Баранавічах немаведама якіх прозвішчаў людзей, якія ніколі ў горадзе не былі і нічога для яго і нашай краіны не зрабілі, а чаго няма — у беларускім горадзе Баранавічы не ўшанаваны ніводзін класік беларускай літаратуры, ніводзін апостал беларускага Адраджэння, якіх дала наша зямля... Да прыкладу, мясцовыя ўлады ў 1992 годзе ніяк не адзначылі 110-годдзе горада (кажуць, забылі), а сёлета правялі нейкія незразумелыя "Гасціны ў Галубка", але ні вуліцы, ні плошчы яго імем так і не назвалі. Расстралялі Галубка гвалтам, а ўшанаваць памяць першага народнага артыста Беларусі так і не хочуць.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства.**
г.Баранавічы.

Уражанні

# Крыжы ў чаканні

*Крыж збуцвелы зваліўся ў траву,*
*Вёска гіне — маўклівыя хаты.*
*У самоце схілю галаву —*
*Чымсьці й я перад ёй вінаваты.*

Бабаедава... З такой дзіўнай назвай ёсць вёсачка на Сенненшчыне. Паходжанне назвы невядома. Больш праўдападобна ад слова "боб". Старыя людзі так і сцвярджаюць. Па-расійску яна пісалася "Бобоедово". Ёсць меркаванне, што назва пайшла ад прозвішча, хоць з такім прозвішчам нікога не памятаюць, каб хто жыў, але сапраўды яно даволі вядомае. А можа назва пайшла ад слова "баба" — жанчына, па-летувіску гучыць "боба". А мо ад цюркскага слова "баба — стары чалавек". Ці ад нейкай каменнай выявы, якая таксама завецца "баба".

Вёска невялікая, якіх нямала на Віцебшчыне. Яна ціха памірае. Шмат падмуркаў ад знесеных хат, некаторыя стаяць апусцелыя, ці выкарыстоўваюцца як лецішчы, "дачы". Моладзі амаль не засталося. Выязджае ў гарады. Паблізу прыпынак на чыгунцы Орша (Ворша — называюць вяскоўцы) — Лепель. Яна аддзяляе ад вёскі пасёлак Хольварак. Вельмі часта можна пачуць: "Пайшоў на Хольварак", "Жыве ў Бабаедаве на Хольварку". Не дзіўна пачуць гэтае слова (фальварак), якое стала назвай. У вёсцы кольвечы было палова жыхароў з прозвішчам Станкевічы, каталіцкага веравызнання, якія, відаць, таму лічаць сябе палякамі. Іх ніколі не называлі палякамі, а іранічна — шляхта. Сэнс гэтага слова не ведаюць і да сённяшняга дня. Нашчадкі ні слова не разумеюць па-польску, але веры каталіцкай не выракліся.

Другая палова — сем'і Лавіцкіх, якія сябе лічылі рускімі. Як жа інакш — праваслаўны, значыць, рускі. Па нацыянальнасці ж пісаліся беларусамі. Але калі сігануць у глыбіню гісторыі, то можна заўважыць: Лавіцкія таксама шляхецкага роду. Розніца толькі ў тым, што яны мелі ўласную зямлю, а Станкевічы — арэндавалі.

Прадстаўнікі Станкевічаў, у сваю чаргу, абзывалі так званых рускіх "мужыкамі". Да сваіх адносіліся з павагай — "пан", "пані". З праваслаўнымі ў шлюб не ўступалі. Нават на вечарынках на танец запрашалі сваіх. Кажуць, і кароў пасвілі асобна. Але гэта не забараняла моладзі жыць весела. Хлопцаў і дзяўчат было шмат. У кожнай сям'і — не менш пяці дзяцей. Вечарынкі былі то ў адной, то ў другой вёсцы кожную суботу.

А якія былі вяселлі! З карагодамі, з абрадавымі песнямі.

Сёння песні можна пачуць толькі ад тых, хто ў падпітку. А раней... Пачуліся песні касцоў — гаспадыня спяшалася рыхтаваць ежу на стол. Сярод спяваючых — гаспадар, які вяртаецца на сняданне. Песні былі свайго роду тэлеграфам. Яны былі на кожны выпадак, на кожнае свята: дажынкі, дабіркі, дакопкі...

Імёны дзяцей былі: Антось, Янка, Зміцрок, Арына, Агата, Марыля, Рыпіна... Такіх зараз тут не сустрэнеш. І не таму, што перасталі называць. Прыклала руку славутая русіфікацыя. Так, напрыклад, мая маці са случчыны з Клашы ператварылася ў Клаўдзію. А брат хоць і застаўся ва ўжытку звацца Геня, а па пашпарту — Генадзій.

Людзі ўспамінаюць выпадкі стрымлівання дзяцей гуляць, сябраваць з дзецьмі "ворагаў народа". Гаспадары чатырох сямей былі рэпрэсіраваны ў 37-38 гадах. У пяцідзесятых гадах рэабілітаваны і паведамлялася, што хтосьці памёр ад "воспаления лёгких", а хтосьці ад "сердечной недостаточности". Толькі цяпер стала вядома абазначэнне гэтага запісу.

Памятаю, мы, падлеткі, здзекваліся з тых, хто, пабываўшы ў горадзе, пачынаў гаварыць "па-гарадскому", гэта значыць, па-расійску. Даходзіла да боек. Мову вёскі не паспелі "зраўняць" з "гарадской", а як зраўнялі — атрымалі "трасянку". Адным словам, адбываецца якраз па-Марксу: калі адны жадаюць аднаго, а другія, наадварот — процілеглага, нараджаецца трэцяе, якое не пажадана ні першым, ні другім. Такім чынам ідзе знішчэнне старажытнай культуры. Да шасцідзесятых гадоў у калгасе справаводства вялося па-беларуску. Зараз і спробы няма, каб яго аднавіць. Праўда, для статупраўлення робяцца справаздачы па-беларуску, бо самі бланкі на такой мове.

У вёсцы да прыходу бальшавікоў знаходзіўся маёнтак нейкага генерала Расткоўскага. Звестак пра лёс гэтай сям'і няма. Ёсць яшчэ магілы. Цікава, што брат генерала "доктар Тамаш Расткоўскі" (так на помніку) у 1897 годзе пажадаў быць пахаваным менавіта тут. Успамінаюць, што труну з яго целам даставілі сюды ажно з Пецярбурга. А помнік з чорнага граніту з надпісам па-польску прывезены з Віцебска. Багата аздоблены помнік і магільны склеп абрабавалі ў савецкі час. Ёсць згадкі, хто гэта зрабіў. У маёнтку гаспадарка спецыялізавалася на вырошчванні агародніны і гусей, якія пастаўляліся ў гарады. Птушкагадоўляй займаліся два яўрэі. Помняцца іх імёны: Арка і Довад.

Аб Першай сусветнай і грамадзянскай войнах, аб раскулачванні ўспамінаў амаль не засталося. Мая цётка Дар'я, якой зараз каля 90 гадоў, успамінае, што ў вёсцы стаялі немцы, а ў суседняй, Цясішчах — чырвоныя. Цётчын бацька быў у Чырвонай Арміі. Прывезлі яго параненага ў нагу чырвонаармейцы на падводзе. У кожнага селяніна ў вёсцы ёсць, акрамя прозвішча, мянушка. Дзеда клікалі Будзёнаўцам.

Раскулачванню тут падвергліся толькі тыя, хто жыў на хутарах. Жылі яны не бедна і былі ніякімі не эксплуататарамі. Нікога не прымушалі працаваць на сваіх палетках, а калі-нікалі прасілі дапамагаць. Усе згаджаліся з вялікай ахвотай, бо "вельмі добра за гэта аддзякавалі", сцвярджаюць старажылы. І па сённяшні дзень мясціны, дзе яны жылі, носяць іх назвы: Аўхіменкаў хутар, Шафронкаў хутар...

З Другой сусветнай вайны вёска выйшла ў вельмі гаротным стане. Толькі дзевяць сем'яў мелі гаспадароў, якія кожны па-свойму застаўся жывым. З тых, хто быў прызваны ў войска, прыйшло двое. Памятаю, як адной з сем'яў Лавіцкіх зайздросцілі: "У цябе, Надзя, хоць мужчына ў хаце ёсць". А яна ў адказ: "Адно толькі што мужчына, а рабіць — скача ля воза, як верабей". Ён вярнуўся з вайны без нагі. Сярод жыхароў былі і партызаны, і паліцаі. Сем'і прызваных у войска немцы і паліцаі не чапалі.

Вёскі палілі і расстрэльвалі жыхароў не толькі немцы. Сучаснікі сведчаць, напрыклад: вёску Падворцы партызаны спалілі толькі за тое, што нехта не пусціў пераначаваць. Таго, хто спрабаваў тушыць, расстрэльвалі. Сярод расстраляных і сям'я, гаспадар якой знаходзіўся на фронце.

Трагічны лёс напаткаў сем'і Лавіцкіх. Аднаго, Аляксея знайшлі ля вёскі застрэленым. Ён быў у атрадзе самаахОвы (паліцыі). З вяскоўцаў ніхто не прыпомніць супраць яго чаго-небудзь дрэннага. Мікалая і Аляксандра сумесна з двума чырвонаармейцамі (прыпіснікамі — так звалі іх у той час), якія засталіся, павёз нібыта ў Сянно на падводзе староста вёскі Лавіцкі Цярэнцій. Як ён паведаміў: каб высветліць нейкую дробязь з прапіскаю. Адтуль яны не вярнуліся. Жанчына, якая пасвіла кароў, бачыла, як невядомыя іх расстралялі. Яна і расказала родным. Злачынцы засталіся непакаранымі. Аказалася, староста быў звязаны з партызанамі. У шасцідзесятых гадах ён памёр у адным з аддаленых пасёлкаў, куды вымушаны быў з'ехаць ад праклёнаў. Але калі не пакарала злачынцаў савецкая ўлада, дык па-свойму змагла адпомсціць іх маці Матруна, мая бабка,— спаліла сядзібу старасты.

Як бы не было цяжка, але жанчыны тут жывуць у асноўным доўга. Каму пераваліла за 80, каму за 90 гадоў. Адной,— нядаўна памерла,— было за 100 гадоў. Пра мужчын такое не скажаш. Як правіла, сваёй смерцю не паміраюць. Калі коратка, трое — павесіліся, трое — нецвярозымі папалі пад цягнік, адзін — загінуў, валіўшыся з санак і ўдарыўся галавой аб слуп, другі — у перакуленым трактары. Сем чалавек (у т.л. дзве жанчыны) памерлі ад раку. Ад гэтага паміраць пачалі з шасцідзесятых гадоў, яшчэ да Чарнобыля. Хутчэй за ўсяго "паспрыяла" чыгунка. Большасць з іх чыгуначнікі ці жылі блізка ад яе.

Не адчуваецца тут ні надзей, ні ўпэўненасці, што хтосьці дажыве да таго часу, калі ў вёсцы з'явяцца прадпрымальнікі, якія заоруць табе, засеюць агарод, скосяць траву і прыбяруць ураджай. І гэты ўраджай будзе проста і выгадна збыць, каб было за што заплаціць тым прадпрымальнікам і самому пражыць. І аднолькава будзе лёгка апрацоўваць і вялікі фермерскі, і маленькі надзел зямлі. І будзе ў кожнага вадаправод, каналізацыя і газаправод, як у Галандыі ці Даніі. А да сваякоў ці за мяжу будзе з'ездзіць лягчэй, чым зараз у тое ж Сянно.

Жахліва ўзірацца, як памірае родны куточак. Балюча назіраць, як ад цямна да цямна ўсё жыццё спрадвеку працуюць вяскоўцы на некага. Апошніх 80 гадоў на камунію. Але больш балюча іх неўсведамленне свайго ўбоства і яго прычын. Успамінаюцца словы маці: "Сынок, ніколі не давдзь людзей да слёз. Слёзы людскія дарам не праходзяць". І сапраўды, яе, як шмат іншых, слёзы дарам не прайшлі. Як бы не ўтрымлівалі бюракраты, развальваецца тая сістэма, ад якой маці пастаянна была ў слязах: абіванні парогаў начальства — то выпрасіць сенакос, каб утрымаць карову, то нарыхтаваць дроў, то каб узараць агарод. І гэтак год за годам... Слёзы нарэшце ад бюракратычных адмоў з Ленінскага райвыканкама г.Менска і тагачаснага старшыні Вярхоўнага Савета Палякова ў прыпісцы да сына і перавода мізэрнай калгаснай пенсіі.

Зноў і зноў узнікае пытанне: чаму так адбываецца? Усё самабытнае тутэйшае вымірае. І не толькі ў Бабаедаве. Нейкая нябачная сіла падштурхоўвае да самазнішчэння культуры жыхароў многіх такіх вёсак. Ды і гарадоў. Узіраючыся ў глыбіню гісторыі, можна згадаць маскоўскага імператара Пятра Першага, які спальвае Віцебск за тое, што жыхары не яго войска падтрымалі. І вось наш недалёкі час — зноў спальванне ўжо адступаючай Чырвонай Арміяй — каб "не дастаўся фашыстам". Перад вачыма знішчэнне беларусаў і маскоўцамі, і французамі, і немцамі, і бальшавікамі — людзьмі ўвогуле без нацыянальнасці. Яны, мірныя нашы сяляне, аказаліся небяспечнымі як для іншаземных захопнікаў, так і для носьбітаў камуністычнай ідэі — "ворагі народа".

Імкнуся спасцігнуць душы тых, хто спрабаваў абараніць Беларусь ад Расійскай імперыі, бальшавізму, таталітарызму пры дапамозе другога "вызваліцеля". І душы тых, хто загінуў, спрабуючы вызваліць гэту зямельку пры дапамозе "усходняга брата". А таксама тых, хто не прызнаваў аніякіх "вызваліцеляў-дабрадзеяў" і ўпарта вёў барацьбу за незалежнасць. Такія заўзята знішчаліся як "вызваліцелямі", так і "акупантамі" аднолькава.

Дык як пазбавіцца ад гэтай навалы? Ці зразумее сутнасць трагедыі? Ці знойдзе выхад наш сучаснік? Няўжо і надалей толькі смерць будзе паядноўваць берагі ідэалагічнай процілегласці? А калі б паразумецца, што мы — адзіны народ і выратавацца можам толькі разам, абараніўшыся ад чарговых задушных абдымкаў імперцаў ці камуністаў з фашыстамі. І каб так здарылася раней, магчыма, жыхары маёй вёскі не панеслі б столькі стратаў і пакут, не жылі б так збяднела.

Сёння ўзамен вышэй названых ідэй настойліва ўжыўляецца ў свядомасць сялян "славянская" ідэя. "Мы славяне і павінны быць з Расіяй, без яе мы не выжывем",— пачынаюць ужо паўтараць вяскоўцы пачутае па тэлебачанні ці па радыё. Ці гэта, пасеянае слугамі Д'ябла: "А мне ўсё роўна, якая мова, галоўнае, каб добра плацілі і бульба радзіла". Так і не ўцяміўшы, што народ, страчваючы сваю культуру, стрыжань якой уласная мова, адначасова губляе і ўпэўненасць ва ўласнай жыццяздольнасці. Такімі людзьмі можна ўжо кіраваць доўга. Яны не абураюцца, бо гэта не народ, не еднасць. Але іх нашчадкі некалі ж ачомаюцца і пачнуць змагацца за сябе і за сваіх затурканых продкаў. На гэтым стаіць жыццё чалавецтва. Тое сведчыць сусветная гісторыя.

Панура з узвышку, адкуль бачна ўсё наваколле, узіраецца на маю паміраючую вёску зарослы густою травой могільнік. Многія крыжы палеглі ў траву, як бы прытаміліся ў чаканні тых, хто абавязаны сюды з'явіцца па законе памяці нашчадкаў. Калі самі нашчадкі дзесь не палеглі на чужыне.

**Мікола ЛАВІЦКІ.**

*Жыццё эміграцыі*

# Не апраўдалі сваіх спадзяванняў?

Летась у сталіцы Чэхіі адбылася міжнародная канферэнцыя "Руская, украінская і беларуская эміграцыя ў Чэхаславакіі між дзвюма сусветнымі войнамі", пра якую "Наша слова" ўжо паведамляла на сваіх старонках. А сёлета чэшскія Славянская бібліятэка, Славянскі інстытут Акадэміі Навук Чэхіі разам з чэшскім Таварыствам вывучэння Сярэдняй і Усходняй Еўропы выдалі двухтомнік матэрыялаў канферэнцыі агульным аб'ёмам каля тысячы старонак, у якім змешчана больш за сто артыкулаў даследчыкаў з Англіі, Беларусі, ЗША, Расіі, Славакіі, Украіны ды Чэхіі. Адным з аўтараў кнігі стаў Іван Савіцкі — гісторык, бацькі якога пераехалі ў Чэхію з першай хваляй паслярэвалюцыйнай эміграцыі.

Свае погляды на праблемы, агульныя для беларускай, расійскай і ўкраінскай эміграцыі гісторык выказаў у інтэрв'ю адной з пражскіх радыёстанцый.

Паслярэвалюцыйная эміграцыя з тэрыторыі былой Расійскай імперыі — лічыць гісторык — істотна розніцца з пазнейшымі хвалямі эміграцыі з усходу. Лацінскае слова "emigro" азначае высяленне і адначасова развітанне з жыццём. Лацінскае слова "imigro" — гэта не толькі ўсяленне, але і авалоданне становішчам, пачатак новага жыцця. Людзі, якія ў 20-х гадах прыехалі ў Чэхію з усходу, былі эмігрантамі ў поўным сэнсе гэтага слова — кажа Савіцкі. Яны з'язджалі на чужыну, цвёрда спадзеючыся вярнуцца на радзіму. Яны думалі пра вяртанне, пра барацьбу з Савецкай уладаю, пра захады да адбудовы сваёй радзімы пасля яе вызвалення. Таму эмігранты доўгі час не імкнуліся зрабіць кар'еру за мяжою, асесці там. І калі іхнія спадзяванні абрынуліся (а для многіх гэта адбылося толькі ў 1945 годзе, пасля перадзелу сфер уплыву ў Еўропе з удзелам СССР) ім было ўжо позна пачынаць новае жыццё. Яны засталіся людзьмі без радзімы, а іхнія дзеці, што нарадзіліся ў Чэхіі, аказаліся сапраўднымі імігрантамі, для якіх Чэхія стала радзімай,— лічыць гісторык.

Вяртаючыся да першага пакалення эмігрантаў, Савіцкі нагадвае: гэтыя людзі трапілі на чужыну ў сталым узросце, маючы досвед удзелу ў рэвалюцыйных падзеях і грамадзянскай вайне. Яны, у адрозненне ад эміграцыі на Захад з краін савецкага блоку, не "выбіралі свабоды", разумеючы пад гэтым жаданне стала жыць у дэмакратычнай і свабоднай краіне. Надварот, яны імкнуліся вярнуцца на радзіму, каб змяніць там дзяржаўны лад любым, нават гвалтоўным спосабам. Бо ўдзел у грамадзянскай вайне не выхоўвае ў людзях ні талерантнасці, ні палітычнай культуры, ні павагі да правоў асобы.

Акрамя таго, гаворыць чэшскі гісторык, у так званую "рускую" эміграцыю нават цяпер агулам залічваюцца прадстаўнікі розных нацый былой Расійскай імперыі,— ад расійскіх чарнасоценцаў, да беларусаў і ўкраінцаў, якія збройна змагаліся за сваю нацыянальную незалежнасць; ад ахвяраў тэрору чырвонага да пацярпелых ад тэрору белага, напрыклад, ад Калчака. Разам з незалежнікамі ў эміграцыю траплялі і тыя, што ўцякалі ад урадаў маладых нацыянальных дзяржаваў, якія паўсталі на руінах Расійскай імперыі.

Таму, на погляд Савіцкага, не мелі рацыі савецкія гісторыкі, якія апісвалі пражскую эміграцыю як зборышча бандытаў. Але не маюць рацыі і яе цяперашнія апалагеты, што падаюць эмігрантаў толькі як змагароў за свабоду і дэмакратыю, як абаронцаў правоў чалавека.

У эміграцыю пайшлі ўсе, але дзейнасць яе скажалася ненармальнымі ўмовамі. Бо за мяжою апынуліся тры чвэрці палітычных лідэраў з абшару колішняй Расійскай імперыі і толькі адзін працэнт яе насельніцтва. У занадта абмежаваным асяроддзі было зашмат лідэраў, якія лічылі свой побыт у Чэхіі часовым, тым самым абмяжоўваючы сферу сваёй дзейнасці захаваннем культурнай спадчыны ды выхаваннем новага пакалення, якое пасля чаканага падзення Савецкай улады мелася вярнуцца на радзіму, каб здзейсніць там пераўтварэнні.

Але беларускія, расійскія ды ўкраінскія эмігранты не здолелі ні вярнуць сабе старую радзіму, ні знайсці ў Чэхіі новую. Іхнія спадзяванні і намаганні аказаліся марнымі і якраз у гэтым іх трагедыя,— мяркуе Іван Савіцкі, нашчадак першай хвалі эмігрантаў.

**Падрыхтаваў У.ПАНАДА.**

# Веруем

*Да 2000-годдзя хрысціянства*

## Манахі Усходняй Царквы

У V стагоддзі свецкія людзі ва Усходняй Царкве моцна перажывалі дыскусіі па рэлігійных пытаннях, якія вялі тэолагі, бо простыя людзі былі ўцягнуты ў іх і ў штодзённым жыцці. У асяроддзі гэтых людзей утварылася даволі значная група, якая вырашыла весці аскетычнае і стрыманае жыццё манахаў.

Матывам выбару манаскага жыцця было наследванне Хрыста. Падобныя самотныя аскеты былі вядомыя ад самага пачатку хрысціянства. Многія з іх былі гатовыя памерці за Хрыста і свядома ішлі на пакуты. Пасля заканчэння пераследу хрысціян многа аскетаў вырашыла прысвяціць сябе жыццю ў пустэльні і духоўнаму дасканаленню. Такіх манахаў-пустэльнікаў называлі грэцкім словам "анахарэт" (той, хто аддаліўся ад свету).

Першай краінай, у якой з'явіліся супольнасці такіх манахаў-пустэльнікаў, стаў Егіпет.

Адным з самых вядомых пустэльнікаў таго часу з'яўляецца Антоній (251-356). Ужо пад час свайго жыцця ён меў многа вучняў, якія абралі шлях манаства, а пасля яго смерці вялікая колькасць людзей сыходзіла ў пустэльні дзякуючы прыкладу Антонія. Жыццё пустэльніка ён пачаў у 18 год пасля таго, як у царкве пачуў словы Хрыста: "Калі хочаш быць дасканалым..." (Мц. 19, 21). Антоній пасяліўся ў пустым склепе на могілках, непадалёку ад сваёй роднай вёскі і там працаваў, маліўся і чытаў Святое Пісьмо. Два разы пешам дабіраўся да Александрыі, каб узмацніць у веры хрысціянаў, арыштаваных пад час пераследу цэзара Дыяклецыяна і другі раз, каб падтрымаць біскупаў у спрэчках з арыянамі.

У сваёй навуцы ён падкрэсліваў, што трэба абавязкова пазнаць сябе, апанаваць уласныя благія схільнасці, каб напоўніцца Богам.

Другім вядомым пустэльнікам і ўзорам для наследоўцаў стаў Павел з Тэбы (пам. у 347 г.). Ён, як і Антоній, меў вучняў, якія ў манаскім жыцці карысталіся яго парадамі. Гэта былі яшчэ самотныя пустэльнікі, якія не стваралі кляштараў.

Самай старажытнай формай супольнага жыцця манахаў быў Анахарэтызм. Каля жытла свайго настаўніка збіраліся вучні і разам маліліся, а раз на тыдзень адпраўлялі ўрачыстую літургію.

Найбольшая колькасць манахаў асела ў егіпецкай, нітрыйскай і сцытыйскай пустэльнях. Так у канцы IV ст. у трох асяродках нітрыйскай пустыні жыло 600 манахаў, яшчэ 200 чалавек вялі самотны лад жыцця. Святую Літургію для іх адпраўляла 8 святароў.

Новай формай манастычнага жыцця стаў т.зв. Цэпабітызм. Яго заснавальнікам стаў Пахом (287-346 гг.), які паходзіў з Верхняй Тэбаіды ў Егіпце. Пасля вайсковай службы ён абраў шлях пустэльніка пад кіраўніцтвам настаўніка Паламона. У 323 г. ён меў досыць значную колькасць вучняў і арганізаваў супольнасць манахаў у Верхнім Егіпце. Пахом лічыў, што не кожнаму манаху адпавядае самотны лад жыцця, і яго ідэалам было стварэнне святой супольнасці на ўзор першых ерусалімскіх хрысціян. Апрача ўдзелу ў літургіі і чытанні Святога Пісьма, Пахом займаўся адукацыяй сваіх вучняў, каб кожны з іх быў пісьменным. Супольная праца на зямлі была для іх не толькі спосабам існавання, але і адмысловай службай Богу, крыніцай удасканалення. Пахом склаў рэгулу жыцця манахаў у супольнасці, якой сталі карыстацца і ў іншых кляштарах, якія пачалі паўставаць і развівацца ў гэты час.

Многа манахаў-пустэльнікаў сабралася на Сінаі ў Палесціне, але самым вядомым стаў кляштар (па-грэцку лаўра) у Фаране на поўнач ад Ерусаліма. Гэту лаўру залажыў у 330 г. пілігрым Харытон, які прыйшоў з Малой Азіі. Вялікі ўплыў на развіццё кляштараў у Палесціне мелі Еўтыміяс і Тэакціст, якія прыбылі ў 405 годзе з Арменіі.

Захад даведаўся пра манаскае жыццё перш за ўсё з твораў Афанасія і Гераніма. Хрысціяне, захопленыя гэтымі ідэаламі адпраўляліся ў Егіпет і Палесціну і закладалі ў гэтых краях уласныя кляштары.

У канцы IV ст. пачаўся бурна расці і развівацца кляштары ў Сірыі. Там існавалі тысячы кляштараў і пустэльнікаў у гротах. Некаторыя нават патрабавалі замураваць ці прыкаваць сябе да сцяны, каб ужо ніколі не вярнуцца ў свет. Тады ў Сірыі паўстала спецыфічная форма пустэльніцтва, якая мела назву Стылітызм, яскравым прадстаўніком якой быў св. Сымон Слупнік (390-459 гг.). Спачатку ён вёў жыццё пустэльніка, але паколькі яго часта адведвалі вучні і пілігрымы, ён пасяліўся ў будане на высокім слупе, адкуль навучаў вернікаў. Пасля яго смерці вакол гэтага слупа паўстаў самы вялікі ў Сірыі кляштарны комплекс.

Сірыйскі манастыцызм у V ст. характарызуецца двума напрамкамі дзейнасці: грамадска-дабрачынным і місіянерскім. Былі закладзены шпіталі, прытулкі, браліся пад абарону людзі, якіх уцякалі ўлады. Сірыйскія манахі ці то самастойна, ці пад кіраўніцтвам біскупаў займаліся місіянерствам у Арменіі і Эфіопіі.

З сірыйскіх манахаў абіралі біскупаў, хаця яны не імкнуліся нават да святарства. Святы Ян Хрызастом высока цаніў на іх падставе само манаства як знак для хрысціянства, які сведчыў пра магчымасць спраўджвання ідэалу дасканаласці паводле Евангелля.

Развіццё манаства ў Малой Азіі звязана з біскупам Еўстацыем з Себасты. Яго вучні прытрымліваліся аскетычнага ладу жыцця. Выглядалі скрайне ўбога, у лахманах, не клапаціліся нават пра ўласную гігіену. Варожа адносіліся да сужэнства і не хацелі ўдзельнічаць у Літургіі, якую адпраўлялі жанатыя святары. Яны адпраўлялі Эўхарыстыю асобна. У сваю чаргу іх скрайнія погляды пагражалі разрывам з Царквой.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Святы Рох

З прычыны нястачы гістарычных звестак цяжка адзначыць храналогію дат нараджэння і жыцця Святога. Напэўна можна сцвярджаць, што нарадзіўся ён пасля 1327 года, а памёр перад 1420 годам. Тым не менш, дакладна вядома месца нараджэння Святога. Гэта Манпельер — партовы горад на поўдні Францыі непадалёк ад Марсэля. У 1289 годзе тут быў заклаздены, другі па значнасці пасля парыжскага, універсітэт.

Сям'я Роха належала да найбагацейшых у горадзе. Бацькі доўгі час не мелі дзяцей і свайго адзінага сына ўпрасілі ў Бога праз пакорную малітву і шчодрую дабрачыннасць. Імя Роха паходзіць ад французскага слова "roche" — "скала" і азначае чалавека трывалага і цвёрдага.

Ужо ў маладосці Рох пазнаў першае выпрабаванне — страціў бацькоў. Але на ўдар лёсу адказаў так, як навучае Эвангелле: "Калі хочаш быць беззаганным, пайдзі прадай маёмасць тваю і раздай бедным; і будзеш мець скарб на небе" (Мц. 19.21). Раздаўшы ўсё, што меў, з кіем у руках адышоў пілігрымкаю да Рыма. Аднак не трапіў у Вечны Горад, бо быў затрыманы эпідэміяй чумы ў італьянскім мястэчку Аквапэндэнт. З хрысціянскай адданасцю дапамагаў заражаным, не зважаючы на смяротную небяспеку. Ва ўзнагароду за хрысціянскую адданасць атрымаў ад Пана Бога дар аздараўлення хворых, за што меў славу Святога. У Рыме на працягу трох гадоў наведваў касцёлы і апекаваўся хворымі і абяздоленымі. Хацеў вярнуцца ў Францыю, але ў дарозе, у мястэчку Плезанцыя, быў зноў затрыманы чумою, заразіўся і цяжка захварэў. Усіх Рох аздаравіў, не засталося ніводнага хворага, але няўдзячныя жыхары выгналі Святога не толькі са шпіталю, а нават з мястэчка. Як мог, ён дайшоў да бліжэйшага лесу... Гоcпад Бог не пакінуў свайго слугу. Адзін гаспадар, прозвішчам Готард, які жыў у тых ваколіцах, заўважыў, што ягоны пёс, крадучы штодня бохан хлеба, кудысьці яго нёс. Готард сцікаваў сабаку і — о дзіва! — убачыў, што жывёла насіла хлеб нашаму Святому. Уражаны гэтым, Готард забраў Роха да хаты, апекаваўся ім і дапамог ачуняць.

Рох рушыў на бацькаўшчыну. Каля мястэчка Ангера быў затрыманы памежнымі вартавікамі, каторыя прынялі яго за шпіёна. Пад час следства быў жорстка катаваны. Знясілены, не вытрымаў пакутаў і ў халодным цёмным скляпенні памёр.

Пан Бог ізноў не забыўся на свайго вернага сына. Жыхары яго роднага горада, да якіх ужо дайшла пагалоска аб цудоўнай святасці Роха, забралі рэліквіі Святога і пахавалі ў парафіяльным касцёле. Пазней, у 1485 годзе, рэліквіі былі перанесены ў Венецыю, дзе знаходзяцца і зараз.

Культ Роха, які шанаваўся як патрон ад заразы, вельмі хутка пашыраўся па ўсёй Еўропе. Гэтаму спрыялі частыя эпідэміі, што вынішчалі да паловы насельніцтва гарадоў. Пад канец XV ст. паўсталі брацтвы Роха ў Венецыі (1477), у Рыме (1499) і ў шматлікіх іншых гарадах.

Папа Аляксандр VI у 1503 годзе пабудаваў у гонар Роха касцёл у Рыме. Папа Пій IV сфундаваў шпіталь і даручыў яго ў апеку рымскаму брацтву Роха. Ад XV ст. св. Рох належыць да 14 заступнікаў.

Папа Георгій XIII занёс яго імя ў Рымскі Мартыралог. На гонар Святога быў закладзены закон рохітаў. Пад тытулам Роха пабудавана каля 3000 касцёлаў і капліц, ёсць таксама і шмат сынктуарыюмаў. У самой Італіі знаходзіцца 64 мясцовасці з назвай S.Rocco — св. Роха.

Гісторыя падае, што ў вязніцы, дзе памёр св. Рох, знайшлі картку з надпісам: "Тыя, каго кранецца зараза, і хто будзе прасіць паратунку ў св. Роха, як у свайго заступніка і патрона, ачуняюць".

Іканаграфія адлюстроўвае св. Роха найчасцей як жабрака ў лахманах з сабакам, які альбо ліжа яго шматлікія раны, альбо трымае ў зубах картку з тым жа надпісам.

Дык будзем жа шанаваць памяць св. Роха — нашага абаронцы і заступніка ў хваробах і няшчасцях.

## Беларуская праведніца

З ліпеня, у дзень вызвалення Беларусі ад фашызму, каля мемарыялу "Яма" на месцы расстрэлу нацыстамі вязняў менскага гета пасольствам дзяржавы Ізраіль і габрэйскім культурным таварыствам была адкрыта Алея праведнікаў народаў свету. Гэты тытул надае інстытут памяці ахвяраў габрэйскага генацыду "Яд Вашэм" у Ерусаліме тым людзям, якія ў гады Другой сусветнай вайны ратавалі габрэяў ад масавага знішчэння гітлераўцамі. Нямала такіх людзей жывые і ў Беларусі і адна з іх — сталы аўтар газеты "Наша слова" Валянціна Адамаўна Выхота. Нашы чытачы ведаюць сп.Выхоту па публікацыях пра шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў "Коласавы зернеткі", але сёння ў нас ёсць нагода пазнаёміць вас з асобай аўтара, бо Валянціна Адамаўна згадзілася адказаць на пытанні нашага карэспандэнта.

**— Валянціна Адамаўна, распавядзіце, як Вы ратавалі пад час вайны габрэяў, як гэта здарылася?**

— Аднойчы да нас прыйшоў бацькаў саслужывец Барыс Фунт і сказаў, што трэба схаваць адну дзяўчыну, Фаню Разоўскую. Бацька нічога мне не сказаў, а маці запытала мяне: "Валя, возьмем яе ці не?" Я кажу: "Мама, безумоўна возьмем, бо ў мяне няма ні братоў, ні сясцёр". Гэтай дзяўчыне мой бацька зрабіў фальшывыя дакументы на чужое імя, і мы клікалі яе Жэняй і ўсім казалі, што яна бацькава пляменніца. Яна пражыла ў нас больш за год, мы тады жылі ў завулку паміж Свіслаччу і чыгункай, ціхае месца — усяго шэсць дамкоў. Усе суседзі былі добрымі, прыстойнымі людзьмі, і ніхто нас не выдаў. Праз год яна вырашыла ісці ў лес да партызанаў. Увесь час, пакуль Фаня ў нас жыла, мая мама хадзіла ў гета і сустракалася з яе маці. Аднойчы Фаня прыйшла ў Менск з заданнем, і мама ёй гаворыць, што яе маці гітлераўцы знішчылі. Яна доўга плакала, моцна перажывала, бо ведала, што такое гета. Яна да канца вайны знаходзілася ў партызанскім атрадзе, але досыць часта прыходзіла ў Менск як сувязная. Аднойчы Фаня прыйшла да нас з адной дзяўчынай, было ўжо цёмна, а праз шчыліны ў сцяўнях прабівалася святло. Тут праходзіў патруль нямецкай жандармерыі. Яны зайшлі ў хату, а тут гэтыя дзяўчаты ды яшчэ са зброяй. Добра, што ў мяне ў школе была добрая настаўніца нямецкай мовы, Фрыда Аўгустаўна, жонка ўладальніка прыватнай гімназіі Фалькавіча, якая дала вельмі добрыя веды. Гэта ў той момант нас і выратавала. Я пачала гаварыць з імі панямецку, не ведаю, чаму яны пачалі мяне слухаць. Нешта я ім гаварыла пра Гётэ, Шылера, Барбаросу. Яны здзіўлена глядзелі на мяне: адкуль гэта маладая дзяўчына мае такія веды нямецкай мовы і літаратуры. Да ўсяго, яшчэ я працавала машыністкай і мела аўсвайс. Я якраз гэтыя аўсвайсы і друкавала, нават удавалася перадаваць іх партызанам. Мама ж у гэты час паставіла на стол цэлы збан малака. Яны павесялелі — матко, млеко — і, напіўшыся малака, пайшлі. Фаня ўвесь час спынялася ў нас, калі прыходзіла з лесу, і пасля вайны яна прапаноўвала бацьку зрабіць дакументы ўдзельніка партызанскага руху, але ён адмовіўся. Пасля вайны Фаня яшчэ некаторы час жыла ў нас, бо яе дзядзька забраў палову дома. І яна была ў нас, пакуль не адсудзіла маёмасць. Яна вельмі чакала з фронту свайго бацьку, але ён загінуў. Потым яна выйшла замуж, і ўвесь час мы падтрымлівалі адносіны. Пасля яна з мужам выехала ў Амерыку. Я праводзіла яе і адчувала, што расстаюся з часткай свайго жыцця. Муж мяне тады папярэджваў, што мне яшчэ дастанецца за гэтыя кантакты, у той час камуністы праводзілі кампанію па барацьбе з сіянізмам. І сапраўды, неўзабаве мяне адправілі на пенсію. Я пайшла працаваць у сельскую школу і ўжо там абаранілa дысертацыю. Фаня ніколі не губляла са мной кантакту, і мы ўвесь час перапісваліся і перапісваемся.

**— Ці сустракаліся Вы з ёй пасля вызвалення?** 

— На жаль, не, але спадзяюся, сустрэнемся, можа нават удасца з'ездзіць да яе.

**— Скажыце, чаму ўсё ж вашыя бацькі вырашылі яе схаваць, бо гэта ж было небяспечна для ўсёй сям'і.**

— Мой дзядзька ажаніўся да вайны з габрэйкай, якая загінула ў гета. Ды ўвогуле мы бачылі, як здзекваліся з іх фашысты. Было звычайнае чалавечае спачуванне, а да ўсяго, бацька быў добра знаёмы з тым чалавекам, які прывёў да нас Фаню. Мае бацькі за ўсю вайну ніколі не адмовілі ніводнаму чалавеку, які заходзіў да нас і прасіў паесці. Мне тады маці сказала: "Гэтае дзіцё можна выратаваць ад смерці." А як мы ўявілі, што яе могуць забіць і будуць цягнуць крукамі, то ніякіх сумненняў — хаваць Фаню ці не — не было.

**— А якім чынам Вас адшукалі супрацоўнікі Інстытута "Яд Вашэм"?**

— Неяк мне прынеслі часопіс "Нёман", у якім была змешчана аповесць "Мая сцяна плачу тут". Аўтар — журналіст з газеты "Во славу Родины" Капілаў. Я яе прачытала, і аказалася, што мы вучыліся ў адным будынку, у якім знаходзіліся дзве школы — № 2 беларуская і № 5 адзіная расійская школа на ўвесь Менск, і ў нас было шмат агульных знаёмых і адныя настаўнікі. Ён апісаў той раён, дзе я жыла, і мяне гэта настолькі ўсхвалявала, што я затэлефанавала ў рэдакцыю "Нёмана" і мне далі яго тэлефон. Мы з ім сустрэліся, і ў размове я сказала, што перапісваюся са сваёй сяброўкай з ЗША, якую наша сям'я хавала ў час вайны. Ён вельмі зацікавіўся гэтай тэмай і напісаў пра нас нарыс у габрэйскай газеце "АВИВ". Гэта было гады два таму. Маіх бацькоў Адама і Лідзію Пятровічаў (пасмяротна) і мяне ва ўрачыстых абставінах узнагародзілі медалём Праведнікаў Народаў Свету.

**Размаўляў Ян БАРЫСОЎСКІ.**

***Вучымся***

***Вікторыя ЛЯШУК,***
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## У газеце

*Нельга ўявіць сабе навелу або раман, верш або паэму, прысвечаныя тэхніцы і вопыту гаспадарчага планавання або раздзельнай уборкі збожжавых (хоць некалі і пісалі такія творы). Для газетнай жа публіцыстыкі такія тэмы вельмі характэрныя.*
**М.Я.Цікоцкі.**

Своеасаблівасць газетнай публіцыстыкі звязана з прыналежнасцю мовы газеты да формаў масавай камунікацыі. У газетна-публіцыстычным падстылі асаблівае значэнне набывае функцыя ўздзеяння, пераканання, з чым звязана спецыфіка публіцыстычнай вобразнасці з падкрэслена канцэнтраванай праблемнасцю, агітацыйным характарам інфармацыі, што пацвярджаюць і змешчаныя апошнімі гадамі ў газетах артыкулы пра лён, прысвечаныя надзённым пытанням гаспадарання, эканамічным праблемам краіны ці яе асобных рэгіёнаў. Пры гэтым вылучаюцца сацыяльна-культурныя аспекты разгледжаных рэалій, раскрываюцца некаторыя гістарычна-этнаграфічныя асаблівасці жыцця грамадства, вядзецца зацікаўленая размова пра яго будучыню.

У практыцы газетнай публіцыстыкі выпрацаваны спецыфічныя прынцыпы аб'яднання стылістычна разнародных моўных сродкаў, прадуктыўна выкарыстоўваецца іх спалучэнне з нямоўнымі, графічнымі — рознымі прыёмамі вёрсткі, афармленнем загалоўкаў ды інш. Важнае значэнне мае рубрыкацыя матэрыялу, якая, разам з загалоўкам, з'яўляецца яго своеасаблівай анатацыяй, сведчыць пра тэму, акрэслівае праблему. Напрыклад, у рубрыцы "Праблемы вёскі" газета "Звязда" змясціла артыкул Алеся Касценя "Ці будзе радаваць нас лён?" (11.08.93.) Пачатак публікацыі вылучаны кампазіцыйным размяшчэннем і тлустым шрыфтам. У ім акрэсліваецца сутнасць праблемы:

**"Сёлета пасевы льну на Віцебшчыне не радуюць. Калі на ўсходзе вобласці — у Дубровенскім, Аршанскім, Лёзненскім, Талачынскім ды некаторых іншых раёнах яны нядрэнныя, а дзе-нідзе аграномы могуць і пахваліцца вырашчаным, то на захадзе па нейкай ужо завядзёнцы размова сёння ідзе аб гібелі вялікіх плошчаў, аб іх спісанні. Значыць, можна з поўнай верагоднасцю прадказаць, што вобласць сваё заданне па продажу 25 тысяч тон ільноваакна не выканае, што спецыяльнай пастановай, як і ў мінулым годзе, будзе дазволена здаваць на льнозаводы трасту нумарам 0,35, але і гэта становішча не выратуе".** Уступ эмацыйны: пачуццё некаторага задавальнення адлюстроўваюць словы **нядрэнныя, могуць і пахваліцца**, аднак пераважае настрой заклапочанасці, укладзены ў словы **не радуюць, па завядзёнцы, аб гібелі, аб спісанні, заданне не выканае, становішча не выратуе.** Звяртаюць увагу канструкцыі з адмоўем не, праз якія стылёва перададзены нязгода, незадавальненне.

Пераканаўчасць меркаванням надаюць афіцыйныя статыстычныя лічбы — план продажу ільноваакна, упамінанне пра дазвол здаваць самую нізкаякасную сыравіну **(траста нумарам 0,35)**. Як бачым, для зацікаўлення чытачоў сканцэнтраваная праблемная інфармацыя перададзена спалучэннем ацэначнага апісання, афіцыйнага паведамлення і лагічных высноў аўтара, пабудаваных на аналогіях ды абагульненні, якія становяцца асновай далейшага аналізу.

*(Заканчэнне будзе.)*

***Практычная стылістыка***

# Навеяць і захаваць

Стылістычныя магчымасці мовы звязаны з уласцівасцямі многіх слоў не толькі абазначаць пэўныя рэаліі, але і несці ў сабе іх ацэнку, адлюстроўваць эмацыйнае стаўленне да іх. Найбольш выразна такая якасць слоў праяўляецца ў іх спалучальнасці: кантэкст удакладняе характар пачуццёвасці, фармуе станоўчую ці адмоўную ацэначнасць. Механічнае спалучэнне слоў з розным эмацыйна-ацэначным адценнем непазбежна спараджае стылёвыя хібы. За прыкладамі звернемся да сёлетніх абітурыенцкіх сачыненняў:

**1. Колас паказаў цяжкае становішча народа і навеяў думку, што за лепшую будучыню трэба бароцца.**

**2. Ядвіся на ўсё жыццё зберажэ ў памяці тыя моманты ў жыцці, калі яе бацька, пан падлоўчы, прыходзіў дамоў п'яным і біў жонку.**

У першым прыкладзе агульнаму тону ўпэўненага дынамічнага сцверджання супярэчыць спалучэнне **навеяць думку**, адзначанае адценнем рамантычнасці, звязанае з выпадковым, непрадбачаным уплывам на асобу, схільную да філасофскага роздуму, душэўнага самааналізу, медытацыі, пачуццёвасці. На такую адметнасць пераноснага значэння дзеяслова **навеяць** пры яго тлумачэнні ўказвае ТСБМ: 'Выклікаць у каго-небудзь пэўны настрой, думкі; прывесці ў пэўны душэўны стан'. Стылёвую асаблівасць значэння пацвярджаюць і прыведзеныя ў слоўніку прыклады: **Адзінота навеяла сум. Успамін пра маці адразу навеяў смутак на Грышаў твар** (А.Пальчэўскі); **І навеюць думак многа Мне пра мілую дзяўчынку Далі тыя і дарогі** (Якуб Колас).

Свядомае ўздзеянне на чытачоў праз іх пачуцці ды актыўнае ўспрыняцце імі аўтарскай ідэі перададуць, напрыклад, дзеясловы **даводзіць, пераконваць, упэўніваць**, спалучэнні **падводзіць да думкі, выклікаць думку, нараджаць упэўненасць** ды інш.

Неабходна адзначыць і выкарыстаны ў першым прыкладзе штамп — **лепшая будучыня**. Замяніць яго можна традыцыйнымі фальклорнымі сродкамі **(за долю, за шчасце, за праўду)** ці канкрэтызаваць грамадска-палітычнымі тэрмінамі **(за незалежнасць і волю (свабоду)**.

Прывядзём адзін з магчымых варыянтаў выпраўлення: **Якуб Колас паказаў цяжкое становішча народа, даводзіў, што за волю трэба змагацца.**

У другім прыкладзе стылёвую цэласнасць і гармонію парушае спалучэнне **зберагчы ў памяці**, якое нясе станоўчую ацэнку падзей, указвае на іх асаблівую значнасць, чаканасць і жаданасць для асобы, успрыманне іх з пачуццём замілаванасці і трапяткой душэўнасці. Раскрываючы значэнне дзеяслова **зберагчы**, ТСБМ падкрэслівае яго спалучальнасць: 'Утрымаць, захаваць (у памяці, у сэрцы)'. Гаворачы пра адмоўныя для ўспрымальніка падзеі ды ўражанні, варта ўжыць словы стылёва нейтральныя **(запомніць, запомніцца)** ці адпаведнай ацэначнасці **(урэзацца ў памяць, запасці ў памяць, пакінуць след у памяці)**.

Стылёвай памылкай у аналізаваным прыкладзе з'яўляецца таўталогія — нематываваны паўтор слова **жыццё**.

Пры выпраўленні сказ значна скарачаецца без страты ў змесце: **Ядвіся на ўсё жыццё запомніць, як бацька, пан падлоўчы, прыходзіў дамоў п'яным і біў жонку.**

Наступным разам мы працягнем размову пра стылёва матываванае і нематываванае сутыкненне слоў супрацьлеглай ацэначнасці.

***З гісторыі красамоўства на Беларусі***

# На роўных

*Знаходзіць шлях свайго народу*
*У віры спрадвечнага жыцця...*
**Сяргей Крывец.**

Сённяшняя наша размова пра полацкую грамату, якую навукоўцы датуюць прыблізна ў межах 1400-1407 гадоў, зважаючы на ўпамінанне рыжаніна Івана Коліна і рыжскія вагі. У рыжскім архіве захаваліся звесткі пра Іагана Кольне, які неаднойчы наведваўся ў Полацк і памёр 25 сакавіка 1407 года. З дакументаў таксама вядома, што летам 1407 года рыжскі майстар Бруцэвітц зрабіў для Полацка вагі, якія былі адпраўлены туды за кошт Рыгі. Гэтыя звесткі сведчаць пра трывалыя гандлёва-гаспадарчыя сувязі дзвюх краін. Стыль граматы пацвярджае гістарычныя факты пра роўнасць бакоў у міждзяржаўных дачыненнях. Гэта пацвярджае своеасаблівая форма вітання (паводле даследнікаў,— нідзе больш не сустрэтая), якая адпавядае салютацыі рыжскіх уладаў. Ёю падкрэслена роўнае становішча абагульненых юрыдычных асобаў: ***Здороваеть намѣсник полоцькии і вси полочане посадьниковъ ризьских и всѣхъ ратманъ.***

Слова ***посадьники*** сведчыць пра актыўнае ўжыванне гэтага грамадскага тэрміна, адлюстроўвае ўяўленне полацкага намесніка пра вышэйшых прадстаўнікоў гарадской улады (у Рызе — гэта ратманы і бюргермейстар).

Адразу пасля вітання дэталізавана ўзгадваецца гісторыя дамоўленасці пра вагі: ***Што жо писали есте намъ о вѣсу о солоном, о том вѣсу много было словъ і послы ваши были у нас.***

***А вѣсы солоныі, восковыі, серебреныи от вас пришли к нам, и мы ныне в тыи вѣсы вѣсим, и привезлъ к нам вѣсы Іванъ Колинъ и солоныи и серебреныи.***

Пасля такога дыпламатычнага экскурса-ўступу паведамляецца — у мяккай, спагадлівай, аднак настойлівай і валявой форме, як папрок,— пра незадавальненне дачыненнямі: ***А только вам не любы ваши жъ вьсы, і вы возмите свои вьсы, а мы вьсимъ въ свои вьсы въ старыи.***

У грамаце — без каментарыяў, ацэнак і эмоцый — гаворыцца пра захоп воску, што належаў царкве св.Сафіі з указаннем на вінаватых і шматлікіх сведак. Гэтая кампазіцыйная частка граматы мае форму афіцыйнага пратакола: ... ***а поимал*** [захапіў] ***тотъ воскъ Іван Марков ученик да Кондрат Еремѣевъ, Микула Романовъ у Поливала да у Ондрона у Сорочьковича, а передъ намѣсники полоцькими, перед Домонтом, перед Васильем Дмитреевич, перед Овдошъком Толстоусович, перед Терешъком Констянтинович, Олександръ Лобьиничь, былъ Лука Попович, Климята Мясникович, Игнат Нѣмчинович, а вильневьци были Семенъ Золотоверьхиі, Тильковъ сынъ Іван, а рижанъ Іван Колинъ, Ерофѣи Федьковъ брат, Захарья Кудрявыи.***

У заключэнні, у найбольш заўважнай для ўспрыняцця пазіцыі, выказваецца самая істотная скарга і катэгарычнае патрабаванне: ***И ныне намъ на вас боле жалоба, въ ваших вѣсѣхъ у берьковьска полупуда нѣтъ, а въ серебреных вѣсѣхъ — полузолотьника, по хрѣстъному целованью што бы есте то поправили.***

Як бачым, скарга змяшчае дакладныя факты, выкладзеныя пераважна гандлёвай тэрміналогіяй. Прадмет скаргі неаднаразова паўтораны ў тэксце, дэталізаваны праз апісальна-лагічныя прыметнікі, указальныя, прыналежныя займеннікі — ***о томъ вѣсу, вѣсы солоныі, восковыі, серебреныі, въ ваших вѣсѣхъ*** і інш. Прыведзены меры вагі: ***берковьскъ, полъпуда, полъзолотьника***. Напісана грамата з пачуццём уласнай годнасці, спагады і патрабавальнасці да ўлад дамоўнага боку — на роўных.

***Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"***

***Валянціна ВЫХОТА,***
***кандыдат педагагічных навук***

# Коласавы зернеткі

(Працяг.)

*Пайшоў Міхал наш у задуме,*
*А па дарозе к цётцы Хруме*
*Ён **трапіў** з гора выпіць чарку.*

У гэтым урыўку слова **трапіць** мае значэнне зайсці з мэтай выпіць чарку. У польска-нямецкім слоўніку даецца:

treffen — trafláć na wesele (uczte) gerade zur Hochzeit (zum Schmaus) ankommen.

У слоўніку беларускай мовы І.І.Насовіча чытаем:

ТРАПЛЯЦЬ. Трапіць. Попадать. Подъ обѣдъ трапляеце, трапили. Г.Паўль гаворыць, што слова Schmaus стала ўжывацца толькі з XVII ст. і з'яўляецца спрадвечным паўночна-нямецкім словам, якое мела дачыненне не толькі да яды, але і да піцця. Schmaus m 1. вкусная еда; обильная пища; 2. пир, пиршество (GDRW); ankommen 1. прибывать, приходить (GDRW); зайти 1. (куда-л.) (hin)gehen; kommen (GDRW).

*Паны жі розныя чынушы*
*І там **патрапяць** выбіць душы*
*І павыцягваць з цябе жылы.*

ПАТРАПІЦЬ 4. Змагчы, здолець зрабіць што-н., даказаць што-н. (ТСБМ); СУМЕТЬ здолець, змагчы (РБС); суметь können; verstehen (выказать умение); vermögen (смочь) (РНС).

У гэтым урыўку слова патрапіць мае значэнне 'змагчы'. Слоўнік сінонімаў М.К.Клышкі дае: ЗМАГЧЫ, ЗДОЛЕЦЬ; ПАТРАПІЦЬ (разм.).

А цяпер спынімся на радках:
*І воз ён свой у кут стаўляе,*
*Астацца ззаду **патрапляе**.*

Найбольш трапным адпаведнікам слова **патрапляе** з'яўляецца расійскае слова норовит. НОРОВИТЬ несов. разг. 1. (настойчиво стремиться) намагацца; імкнуцца; (стараться) старацца (РБС); норовить разг. es darauf absehen (РНС); absehen II 1. es auf j-n, auf etw. absehen разг. метить, посягать на кого-л., на что-л. (GDRW). У сінанімічным слоўніку (SW): absehen b) unterlassen; absehen <begierig sein, bezwecken> sie hat es auf ihn, [nur] auf sein Geld abgesehen (WW).

begierig I жадный, алчный (GDRW)

bezwecken I иметь целью, ставить себе целью (GDRW)

— *Ну, што ж? **натрапіў** на такога,*
*А каб наскочыў на другога*

У слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў М.К.Клышкі словы **натрапіць** і **наскочыць** даюцца як сінонімы ці блізказначныя словы. НАСКОЧЫЦЬ 2. не на таго наскочыў разг. не на того нарвался (РБС). наскочить 3. перен. разг. (задирать, вызывать на ссору) anrempeln (РНС).; anrempeln разг. 1. толкать, задевать; задирать; 2. обругать (GDRW); anrempeln (ubertr.) jmdn. beleidigen, beschimpfen: er hat mich persönlich angerempelt (WDG)

*Што адказаць **трапней** на гэта?*

ТРАПНЫ. 2. перан. Які дакладна і правільна падмячае, схоплівае што-н. *трапны жарт* (ТСБМ). treffen: 7. <richtig aussagen> [du hast es] getroffen! (umg; du hast das Richtige gesagt); auch die rechten Worte finden (WW)

ТРАПНЫ. 2. перен. удачный, меткий (БРС). МЕТКИЙ 2. перен. трапны. удалы; меткий ответ (удалы) трапны адказ (РБС); eine treffende Antwort (WDG); ein Gefühl (in)mit treffenden Worten ausdrucken (WW).

*Часамі тут былі і стычкі,*
*Калі спеў новы зачыналі*
*Ды ў тон агульны не **траплялі**.*

treffen: 7. den richtigen Ton treffen (in der Musik) (WW).

*А хлопцы голавы ўскруцілі*
*Ў хаду ўсе спосабы пусцілі,*
*Найсці прычыну тую квапяць,*
*Але на след ніяк не **трапяць**.*

Уся сям'я слухае таемныя гукі, што чутны ад Нёмана, а хлопцы не могуць трапіць на след, каб разгадаць гэтую таямніцу.

НАПАСЦІ. Напасці (трапіць, натрапіць) на след — атрымаць звесткі, якія дапамагаюць выявіць, знайсці каго, што-н. (ТСБМ); напасть 2. напасть на след кого-л. [чего-л.] j-m [einer Sache] auf die Spur kommen (РНС); einem Geheimnis auf die Spur kommen (ein Geheimnis herausfinden) (WDG).

Spur, die, j-m auf die Spur kommen напасть на чей-л. след (GDRW)

**Трапіць**. Ням. treffen, с.-в.-ням. treffen, ст.-в.-ням. treffan. Старажытнагерманскае слова. Першапачаткова азначала 'датыканне ў выніку штуршка, удара, кідання альбо стрэлу', што магло здарыцца наўмысна ці выпадкова. Герм. корань *drep, дагерманскі *dhrep.

***Да 400-годдзя выдання "Граматыкі"***

***Алена ЯСКЕВІЧ,***
*кандыдат філалагічных навук*

# Лаўрэнцій Зізаній як філосаф мовы

Сярэдневяковыя філолагі, як лацінскай, так і візантыйскай традыцыі, асабліва *мадысты*, імкнуліся стварыць своеасаблівую філасофію мовы. Іх цікавілі пытанні ўзаемаадносін мовы і мыслення, логікі і граматыкі. Менавіта, універсальная граматыка[1], на іх думку, павінна адлюстраваць, ва ўсёй паўнаце і глыбіні, законы прыроды мовы, іх узаемасувязь з рэаліямі жыцця. Даследнікамі згадваюцца спробы аднаго з мадыстаў, Баэцыя з Дахіі, нават вылучыць граматыку ў якасці асобнай навукі са сваім прадметам і метадамі даследавання.

Агульнавядома, што з часоў александрыйскіх вучоных, кніжнікі часцей за ўсё займаліся філалагічнай працай над багаслоўскімі і літаратурнымі помнікамі. Ужо пазней пачалі адрозніваць граматыку як тэхніку правапісу, аналізу і гістарычную (ці экзэгетычную) граматыку, якая займаецца тлумачэннем і крытыкай тэкста. Лаўрэнцій Зізаній, апярэджваючы тагачасны стан навукі, ужо ў канцы XVI стагоддзя змяшчае ў складзе класічнай граматыкі экзэгетыка-герменэўтычныя і паэтыка-дыдактычныя раздзелы ("Толкованіе молитвы", "Посланіе споудеомъ", "Епіграму на граматікоу", "Стихи", "Типографъ младенцем"). Згодна гэтай тэорыі, граматыка ўяўляе сабой найменне паняццяў рэальнага жыцця і выражэнне іх з дапамогай мовы[2]. Ідэя пазнання сусвету як адлюстраванне яго (сусвету) сутнасці сродкамі мовы складала, як ужо адзначалася вышэй, аснову вучэння Канстанціна Касцянецкага[3], ідэолага выпраўлення кніжнага.

Слова, паводле гэтага вучэння, было сутнасцю з'яў. Нездарма ў эпоху другога паўднёваславянскага ўплыву прыхільнікі ісіхазму так цікавіліся філасофіяй Платона і неаплатонікаў. Пра наследаванне лепшых традыцый грэцкіх эпіграм сведчыць выкарыстанне Л.Зізаніем удалай стылізацыі элегічнага дысціха, які ўвёў у літаратуру Платон, у аднайменнай эпіграме на граматыку. Але філасофскія пошукі неаплатонікаў трансфармаваліся ў свядомасці ісіхастаў цалкам у рэчышчы хрысціянскай анталогіі. Ісіхасты знаходзілі ў самім жа слове сутнасць той з'явы, што ім абазначалася, а ў імені Божым — самога Бога. Таму слова, якое служыла найменнем святой з'явы, згодна перакананню ісіхастаў, такое ж святое, як і сама з'ява:[4] "Тым же прѣмудрый онъ от Бога прѣмудрость просить, а не собою утверждаеть"[2].

Факты сведчаць, што Л.Зізаній быў свядомым прыхільнікам ісіхасцкай традыцыі. Як вядомы экзэгет і багаслоў, у 1626 годзе ён быў запрошаны ў Масковію царом Міхаілам Фёдаравічам і патрыярхам Філарэтам Мікіцічам. Але Катэхізіс, выдадзены ім спачатку ў Кіева-Пячорскай Лаўры, належаў да візантыйскай традыцыі. У той час у Масковіі ўзнікла асобная багаслоўская школа, ідэі якой адрозніваліся ад Царградскіх. Таму ад маскоўскага перавыдання Катэхізіса засталіся лічаныя экземпляры.

Пры аналізе катэгорыі "разсоужденія" (ступеняў параўнання), паводле ісіхасцкай традыцыі, Л.Зізаній вылучае, побач з вышэйшай і найвышэйшай ступенямі параўнання, пачатковую "положенную степень", незалежны суперлатыў: святый — святѣйшій — пресвятѣйшій; золъ — злѣйшій, горшій — паче злѣйші, найгоршій.

Старабеларускі граматыст, у нечым апярэджваючы свой час, вельмі цікава разглядае трансфармацыю катэгорыі прыналежнасці ("зиждительности") ў мове, "образъ имёнъ вида производнаго":

— отеческая (ад імя па бацьку), Константінович, от Константіна;

— властная (якая належыць пэўнай асобе), царскій, от царя;

— языческая (паводле месца паходжання), еллинъ от Еллады, москвитинъ, отъ Москвы;

— оумалителная (памяншальна-ласкальная), златооустецъ, отъ златооустаго;

— отименная (адносная, уласцівасць рэчы), златый, отъ злата;

— глагольная (аддзеяслоўная, своеасаблівая субстантывацыя дзеяння), читатель, отъ читаю.

---

1 Бацькам універсальнай граматыкі лічыцца Ф.Санчас. Лопэ дэ Вэга ў "Вянку Апалона" назваў яго "выдатным рытарам, Мяркурыем навук". Мігель дэ Сервантэс захапляўся яго талентам красамоўцы, пра што ён сведчыць у сваёй "Песні пра Каліопу". Але ўжо ў першай палове XVII ст. "Мінерва" стала бібліяграфічнай рэдкасцю, пра што сведчыў Лансло, адзін з аўтараў шырокавядомай універсальнай "Граматыкі Пор-Раяля" (1660 г.). Калі Ф.Санчас уключае ў граматыку толькі сінтаксіс і марфалогію, то Арно і Лансло, аўтары "Граматыкі Пор-Раяля",— яшчэ і фанетыку са словаўтварэннем.

2 Bursill-Hall G.L. Some notes on the grammatical theory of Boethius linguistic.— In: History of linguistic thought and contemporary linguistic. B., N.Y., 1976. P.164, 168.

3 Лихачев Д.С. Исследования по древнерусской литературе. Л., 1986. С.18-20; Сырку П.С. К истории исправления книг в Болгарии в XIV в. Спб., 1899. Т.1. Вып.1. С.247; Киселков В.С. Проуки и очерти па старобългарска литература. София, 1956. С.266-303.

4 Динеков П. Старабългарска литература. София, 1953. Втора част. С.57.

## *Выставы*



Выстава "Фуджы-Прэс-фота-95" адкрылася ў Нацыянальнай мастацкай галерэі. На ёй прадстаўлены лепшыя рэпартажныя работы вядучых мастакоў свету з Італіі і Партугаліі, Швецыі і Германіі, Бельгіі і Англіі, многіх іншых краін. Яны здымалі свае рэпартажы з гарачых кропак планеты. Мовай фотаздымкаў рэпарцёры расказвалі аб здарэннях у Югаславіі, Чачні, Анголе і Палесціне. Прыродныя катаклізмы і катастрофы, спорт, нацыянальныя традыцыі і чалавек у самых нечаканых сітуацыях — усё гэта ў фотаработах, якія прадстаўлены гледачам фірмай "Белэксфільм".

**На здымку:** работа з выставы: Міндаўгас Кульбіс (Летува). "Чачня-95".

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

## *Гіт-ліставанне*

# "Хлопчыкі з задворкаў", хто яны?

*Гэты артыкул з вядомага міжнароднага часопіса "Popcorn" пераклаў на беларускую мову наш чытач з Пінска Я.Салянчук, спрабуючы ў родным горадзе апублікаваць гэтую працу. Але... у пінскай газеце "Варяг", на Пінскім тэлебачанні яму сказалі, што з беларускім тэкстам у Пінску будуць праблемы (нібыта гэты горад ужо не ўваходзіць у Беларусь). Паўсталую праблему вырашыла з'яўленне ў "Нашым слове" рубрыкі кіна-відэа-аўдыё-шоў-навінаў "Гіт", куды Я.Салянчук і вырашыў прапанаваць гэты музычны супер-гіт апошняга часу.*

Найперш мы распыталі Гоўі, які "без бою" прызнаўся нам, што перад кожным канцэртам мае даволі шмат праблемаў з-за страяў, бо кожны хацеў бы выступаць інакш: "У такіх выпадках рашэнне прымае альбо наш менеджэр Джоні, альбо мы цягнем запалкі!"

Розныя погляды паміж удзельнікамі гурта ўзнікаюць таксама адносна стану гатэльных пакояў. "Там заўсёды такі выгляд, быццам выбухнула бомба" — смяецца Брайэн — "Калі з намі няма бацькоў, за парадкам сочыць найстарэйшы, г.зн. Кэвін!"

А.Дж. па натуры рамантык і зачытваецца сур'ёзнай літаратурай: творамі Шэкспіра, Алана Эдгара По. "Сам таксама пішу апавяданні! Але не такія панурыя, як По."

"Ніхто з нас не дасканалы!" — гаворыць нам адны ўдзельнікі гурта, калі другія грызуць пазногці. Акрамя таго, іх яшчэ аб'ядноўвае агульная боязь вышыні. Нік — заўзяты прыхільнік амерыканскага футбола і фанат футбольнай каманды "Miami Dolphins" (Дэльфіны з Маямі).

Гоўі — гэта джэнтльмен, знаўца моды і гурман: "Найбольш мне падабаецца азіяцкая кухня, але каштую ўсё. У Нямеччыне мы смакавалі каўбаскі ў кіслай капусце."

Пералом у кар'еры "Backstreet Boys" надышоў дзякуючы... тэлефону. У часе аднаго з іхніх выступленняў перад трыма тысячамі вучняў сярэдняй школы ў Агаё (ЗША) менеджэр Джоні патэлефанаваў да зацікаўленай кружэлкавай фірмы і "ў жывую" трансляваў энтузіязм слухачоў: "Ці добра чуеце гэты крык захаплення?" — спытаў ён. Праз некалькі дзён пасля гэтага кантракт з гуртом быў падпісаны.

У першым лісце, які Нік атрымаў ад фанаткі з Еўропы было напісана: "Лічу што ты надзвычайны, хачу ажаніцца з табой!" Нік гаворыць: "Гэта быў сапраўдны шок для мяне. Дагэтуль ніколі не меў нават сваёй дзяўчыны."

З Брайэнам у дзяцінстве было такое здарэнне: "Калі мне было пяць гадоў, падхапіў я нейкую цяжкую інфекцыю. З-за высокай тэмпературы цэлы тыдзень быў непрытомны і ўжо баяліся за маё жыццё."

Гоўі ва ўзросце пяці гадоў дурэў на бабульчыным ложку, кідаў падушкі і напяваў поп-гіты. Кэвін вакальныя пробы распачаў ва ўзросце 4 гадоў, стоячы ў ванне перад люстэркам і надзіраючыся ў мікрафон, які зрабіў сабе з... шчоткі для валасоў. А.Дж. выступаў ужо на 27 забаўляльных імпрэзах (між іншым, як адзін з гномаў у школьнай пастаноўцы Беласнежкі). Нік жа, як сцвярджае ягоная мама, спрабаваў таньчыць яшчэ ў пялюшках...

Увогуле гурт "Backstreet Boys" з'яўляецца актывістам SADD/Students Against Destructive Decisions), маладзёжнай арганізацыі, якая спрабуе дапамагчы моладзі ў дасягненні пазітыўных жыццёвых мэтаў. "Думай пазітыўна, не рабіся вар'ятам, найперш, не ўжывай наркотыкаў!" — гаворыць Брайэн.

**Паводле "Popcorn" № 5, 1996 падрыхтаваў Я.САЛЯНЧУК.**

## *Юбілеі*

# Скрыжалі лёсу пеюна

У Баранавічах за Брэсцкай вуліцай і чыгуначным насыпам старанна абгароджаны вялікі пляц. Там за высокай агароджай груваcціцца мясцовая знакамітасць — турма, ці, як раней яе называлі, астрог. Функцыянавала гэтая турма-астрог пры ўсіх рэжымах: пры паляках, двойчы пры Саветах, пры нямецкіх фашыстах. Працягвае дзейнічаць яна і ва ўмовах сённяшняй незалежнай Беларусі. Але размова пойдзе не пра гісторыю існавання гэтага "сховішча" людзей, а толькі пра аднаго чалавека, які не пазбег зняволення ў яго сценах,— пра паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Мушу зноў вяртацца да лёсу гэтага баранавіцкага пакутніка, тым болей, што ёсць нагода — спаўняецца 90 летаў, як ён прыйшоў у гэты свет, які яго зусім не песціў.

Нарадзіўся Сяргей Міхайлавіч Новік 27 жніўня 1906 года ў песеннай вёсцы Лявонавічы на Нясвіжчыне, з якой мяжуе мая Баранавіччына, у самай звычайнай беларускай сям'і. Здольнага хлопца бацькі заахвочвалі да навукі, і Сяргей Новік паступіў у Нясвіжскую расійскую гімназію, у якой вучыўся на працягу шасці гадоў (1918-1924). У акупаванай Польшчай Заходняй Беларусі разгортваўся нацыянальна-вызваленчы рух. У час вучобы на беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні, якія скончыў у 1926 годзе, юнак уключыўся ў культурна-асветніцкую работу сярод беларускай моладзі. Гэта было заўважана польскімі ўладамі, і яго неаднаразова арыштоўваюць, потым на пяць гадоў высылаюць на Памор'е (1926-1931) і нарэшце неўтаймоўнага юнака-патрыёта сваёй Бацькаўшчыны запраторваюць у Баранавіцкую турму. Фашыстоўска-санацыйныя рэжым не мог дараваць Сяргею Новіку-Пеюну яго вольналюбных вершаў, яго культурна-асветніцкай дзейнасці, таго, што ў родных Лявонавічах ён адкрыў беларускую школу і стварыў народны хор.

З Баранавіцкай турмы Сяргея Новіка-Пеюна ў верасні 1939 года выбавіў прыход у Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі. Ён энергічна ўключаецца ў работу савецкіх устаноў: працуе інспектарам Слонімскага раённага аддзела народнай асветы, затым да самай вайны ўзначальвае Слонімскі краязнаўчы музей. Піша вершы. Яго вядомасць сярод чытачоў і творчай інтэлігенцыі расце, пра што сведчыць аўтограф Янкі Купалы: "Міламу Сяргею Пеюну падчас сустрэчы ў Слоніме. Янка Купала. 14/IX — 1939 г."

Гітлераўскія акупанты таксама не маглі пакінуць у спакоі паэта і патрыёта сваёй Радзімы. За антыфашысцкую дзейнасць Сяргея Новіка-Пеюна арыштоўваюць. Пасля Слонімскага астрога паэт у 1944 годзе зноў трапляе ў Баранавічы ў тую ж турму, дзе сядзеў пры паляках. Цудам застаўся ў жывых: яго разам з іншымі вязнямі расстрэльвалі, але куля толькі слізганула па яго патыліцы, ён упаў і прыкінуўся мёртвым.

Але ж не пакінула паэта ў спакоі і савецкая ўлада пасля вайны. Трыбунал НКУС Баранавіцкай вобласці па хлуслівым абвінавачанні пазбаўляе "нацыяналіста" волі на 10 гадоў. З Калымы Сяргей Новік-Пяюн вярнуўся пасля рэабілітацыі ў 1959 годзе. Ён шмат піша, але цяжка друкуецца. Апошні яго паэтычны зборнік "Песні з-за кратаў" пабачыў свет у 1993 годзе. Ёсць там і баранавіцкі цыкл.

У вершы "Прысяга" ёсць такія радкі:

*Беларусь, мая родная Маці!*
*Я не здраджу ніколі табе*
*За ніякія ў свеце багацці —*
*Лепш злажу галаву ў барацьбе.*

Усім сваім пакутніцкім, драматычным жыццём паэт сцвердзіў сваю прысягу Маці-Радзіме.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства.**
г.Баранавічы.

## *Прэм'еры*



Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы прапануе ўвазе гледачоў спектакль "Ромул Вялікі" па п'есе швейцарскага пісьменніка і драматурга Фрыдрыха Дзюрэнмата. Пераклаў яе на беларускую мову Мікалай Матукоўскі, а зрабіў пастаноўку мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Раеўскі.

Спектакль, жанр якога адзначаны як "гістарычна недакладная камедыя", абяцае стаць падзеяй у культурным жыцці рэспублікі. Над стварэннем яркіх вобразаў шмат папрацавалі славутыя купалаўцы і іх маладыя калегі. Сваім майстэрствам парадуюць гледачоў Генадзь Аўсяннікаў, Аляксандр Падабед, Аўгуст Мілаванаў, Мікалай Кірычэнка, Павел Дубашынскі, Валерый Філатаў, Віктар Манаеў, Аляксандр Лабуш, Віталій Радзько, Уладзімір Кін-Камінскі, Вячаслаў Паўлюць, Тамара Пузіноўская, Ала Ельяшэвіч і іншыя.

**На здымку:** Сцэна са спектакля.

**Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА, БелТА.**

# І смех і грэх

## *Пародыі*

*Янусь МАЛЕЦ*

### Калі ў штанах — аса!

*аса шукае*
*нешта*
*салодкае ў маіх штанах*
**Мікола Пракаповіч.**
Верш надрукаваны ў "Крыніцы"
(працытаваны поўнасцю).

салодкага ў штанах няма
пахнючага таксама
якая ж для асы маленькай
драма
напісана няшмат
і пунктуацыя таму такая
можа
што ўджаліць жа аса
зараза
ў што папала
можа

*Антон МАНКЕВІЧ*

### Чаму псуюцца тэлевізары

Што тэлевізары нашыя часта псуюцца — не дзіва. Калі б не так — не ездзілі б майстры па іх рамонту на мерседэсах. І ў майго "Гарызонта 412И" пайшоў гэты працэс. Вядома ж, знайшоўся майстар, а потым з МГТТЦ "Арбіта-Сэрвіс" заключыў дагавор на гарантыйнае абслугоўванне. Так лепей: пазвоніш — прыедзе майстар. Ён прыязджаў праз месяц, праз два. Можа і нічога, але ж трэба званіць, трэба быць у рабочы час дома, трэба потым мыць падлогу, бо майстры цяпер не здымаюць абутак, калі праходзяць у кватэру. Я папрасіў, каб знайшлі таямнічы дэфект. Забралі мой тэлевізар, а праз тыдзень прывозяць і кажуць, што цяпер усё будзе добра. Але праз тры дні, як і раней, з трэскам, з пахам гарэлага, адключаецца экран. Выклікаю майстра, ён уключае тэлевізар, а там усё ў норме. Майстар доўга глядзіць на экран, потым кажа:

— Люблю гэты фільм, а калі перадача добрая, тады, бачыце, і тэлевізар добра паказвае, а калі хлусня... ён быццам разумее гэта.

Майстар пайшоў, а я задумаўся: а раптам тут і ёсць прычына, успамінаючы, што ў Японіі распрацоўваюць думаючыя кампутары. Дарэчы, трубка ў тэлевізара японская. Я пачаў прыглядацца да тэлеперадач, беларускую праграму ўключаў рэдка, таму як на ёй больш за ўсё псаваўся. Не так даўно на юбілей падарылі мне невялічкі, але добры чорна-белы тэлевізар "Віцязь". Уключыў. Тут падбягае ўнучка і кажа:

— Дзед, ты зноў уключыў дзядзю з "Рэзананса"! Хочаш, каб і гэты тэлевізар сапсаваўся?

Я выключыў, хаця не ведаю, праўду яна сказала ці не. А "Арбіта-Сэрвіс", відаць, у цяжкім становішчы, бо неўзабаве дэфект паўтарыўся. Майстар зноў паглядзеў і сказаў:

— Гм, дэфект малазнаёмы, пачакаем, хай штосьці згарыць.

— А калі згарыць кінескоп?!

— Можа і ён.

Нічога сабе, разважаю. Няўжо і нашы навучыліся майстраваць такія тэлевізары, як японцы? А я не жадаю быць паддоследным белым пацучком. Дык тады ўключаць мне Беларускае тэлебачанне ці не? Я пачаў наведвацца да суседзяў і ў іх прыглядацца да тэлепраграм: каторая праўдзівая? А можа, прасцей напісаць прэзідэнту, каб загадаў па-ранейшаму выпускаць савецкія тэлевізары?

## *Рамельская куламеса*

### ЯК СУСАНІН

На ўроку фізікі настаўніца пытаецца ў вучня:

— Як ты разумееш аднабаковую праводнасць паўправадніковага дыёда?

Кемлівы вучань выпаліў:

— Як Сусанін: туды завёў, а назад — не.

### НАХІМІЧЫЛА

Настаўніца на ўроку хіміі звяртаецца да вучаніцы:

— У чым раскладаюцца тлушчы?

— У каструлі,— пачулася ў адказ.

**Леанід РАМАНЕНКА,**
в.Рамель.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 894

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2484 паасобнікаў
Падпісана ў друк 21.08.1996 г. у 15 гадзін.